## ЗМЕСТ

**СТАНОВІШЧА Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2015 г. (АГЛЯД)** .......... 3

**АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ І ТЭНДЭНЦЫІ Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2015 г.** .......................................................................... 4

**ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ** ........................................... 9

**ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ** ................................................ 13

**Судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)** ...... 13
**Затрыманні журналістаў, судовы адміністрацыйны пераслед** ........................................................................ 14
**Выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі** ........................ 23
**Пагрозы ў адрас журналістаў і СМІ** ........................................ 24
**Папярэджанні, адміністрацыйны ціск** ....................................... 24
**Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі** ................. 26
**Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў** ............ 31
**Перашкоды ў друку і распаўсюджванні прадукцыі СМІ** .......... 33
**Эканамічная палітыка ў дачыненні да СМІ** ............................. 35
**Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце** ........................... 36

# СТАНОВІШЧА Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2015 г. (АГЛЯД)

*Асноўным чыннікам, які ўплываў на становішча са СМІ ў Беларусі ў 2015 г., былі выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Яны адбыліся ў кастрычніку 2015 г. Напярэдадні выбараў заканадаўства пра СМІ і практыка яго застасавання сталіся больш жорсткімі. Магчыма, на гэта паўплывала і імкненне ўладаў узмацніць кантроль над асвятленнем сродкамі масавай інфармацыі эканамічнай сітуацыі ў краіне, якая пачала пагаршацца.*

З 1 студзеня 2015 г. уступілі ў моц папраўкі ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі», якія былі ў спешным парадку і без якога-колечы абмеркавання ўнесеныя ў яго ў снежні 2014 г.

Гэтыя папраўкі, у прыватнасці, распаўсюдзілі адказнасць, прадугледжаную законам, на інтэрнэт-СМІ, а Міністэрства інфармацыі атрымала права абмяжоўваць доступ да анлайн-рэсурсаў (у тым ліку замежных) у пазасудовым парадку. На працягу года міністэрства скарысталася гэтым правам 40 разоў – у асноўным у мэтах барацьбы з распаўсюдам наркотыкаў і парушэннямі ў галіне гандлю.

Адной з галоўных праблемаў года стаўся пераслед беларускіх журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. 28 журналістаў былі аштрафаваныя на гэтай падставе. Пасля перадвыбарчага абяцання Аляксандра Лукашэнкі разгледзець становішча, здавалася, што праблема была вырашаная, але напрыканцы 2015 г. былі распачатыя тры новыя адміністрацыйныя працэсы супраць журналістаў, матэрыялы якіх з’явіліся на замежным тэлебачанні.

Пад ціскам знаходзіліся і друкаваныя сродкі масавай інфармацыі. У пачатку года Міністэрства інфармацыі па надуманай прычыне вынесла папярэджанні 27 друкаваным СМІ.

Два папярэджанні на працягу года могуць спрычыніць спыненне выпуску СМІ. Таму ёсць усе падставы меркаваць, што папярэджанні былі накіраваныя на ўзмацненне самацэнзуры ў СМІ.

У ліпені 2015 г. быў усталяваня новы адміністрацыйны бар'ер для распаўсюду прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі: абавязак рэгістрацыі яе распаўсюднікаў у Міністэрстве інфармацыі.

Гэта пагоршыла магчымасці незалежных друкаваных СМІ рэалізоўваць сваю прадукцыю праз гандлёвыя кропкі, бо значная частка апошніх не пажадала праходзіць дадатковую адміністрацыйную працэдуру. Асабліва адмоўна патрабаванне рэгістрацыі распаўсюднікаў СМІ адбілася на тых друкаваных выданнях, якія пазбаўленыя магчымасці рэалізоўваць сваю прадукцыі праз дзяржаўныя сістэмы распаўсюду СМІ па падпісцы і ўраздроб.

Сярод станоўчых момантаў года трэба адзначыць памяншэнне колькасці кароткатэрміновых затрыманняў журналістаў міліцыяй і адсутнасць рэпрэсіяў супраць журналістаў і СМІ пасля выбараў.

Апошняе, верагодна, тлумачылася імкненнем афіцыйнага Мінска дамагчыся станоўчае ацэнкі выбараў з боку міжнароднай супольнасці, адсутнасцю сур’ёзнай палітычнай напружанасці ў краіне падчас выбараў, а таксама тым «ахаладжальным эфектам» для СМІ, які быў дасягнуты ў выніку папераджальнага ўзмацнення медыйнага заканадаўства і практыкі яго застасавання.

# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ І ТЭНДЭНЦЫІ Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2015 г.

## Узмацненне судовага пераследу журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ

У 2015 г. узмацніўся ціск на журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. На падставе складзеных міліцыяй пратаколаў суды прыцягвалі іх да адказнасці паводле адвольна трактаванай часткі 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, якая прадугледжвае адказнасць за незаконны выраб і/ці распаўсюд прадукцыі СМІ (такая практыка пачалася з траўня 2014 г.) Калі ў 2014 г. да адказанасці паводле ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях былі прыцягнутыя 10 журналістаў, то ў 2015 г. – 28. Агульная сума штрафаў склала больш за 146 мільёнаў беларускіх рублёў, што складала каля 8 тыс. еўра на момант вынясення штрафаў.

Трэба падкрэсліць, што ва ўсіх выпадках падставай для застасавання ў дачыненні да журналістаў санкцыі паводле ч.2 арт.22.9 КаАП "Парушэнне заканадаўства аб СМІ" стаўся не змест іх матэрыялаў, а сам факт іх з'яўлення ў замежных СМІ.

Становішча змянілася пасля таго, як 4 жніўня прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падчас інтэрв'ю журналістам незалежных СМІ паабяцаў разабрацца з гэтай праблемай. З канца жніўня і да 24 снежня 2015 г. новых справаў па абвінавачанні журналістаў паводле ч.2 арт. 22.9 не ўзбуджалася. Аднак напрыканцы года пераслед журналістаў за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі аднавіўся. 24 і 28 снежня аддзелы міліцыі Гомельскай вобласці склалі тры пратаколы ў адносінах да гомельскіх журналістаў Л. Шчыраковай і К. Жукоўскага ў сувязі са з'яўленнем іх матэрыялаў на тэлеканале "Белсат" (Польшча). Пазней журналісты былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

## Затрыманні журналістаў

На пачатку 2015 г. сталіся больш частымі выпадкі затрыманняў грамадзянаў, якія здымалі адміністрацыйныя будынкі (у тым ліку будынкі Акадэміі навук, ЗАГСа). Як мінімум, тры журналісты сутыкнуліся з перашкодамі сваёй прафесійнай дзейнасці. Свае дзеянні супрацоўнікі міліцыі тлумачылі атрыманым "унутраным" указаннем намесніка міністра ўнутраных справаў Мікалая Амельчанкі.

Паводле іх словаў, указанне ад 25 лютага "арыентуе" супрацоўнікаў міліцыі даведвацца пра мэты правядзення фота- і відэаздымак адміністрацыйных будынкаў і саміх міліцыянтаў, затрымліваць асобаў, якія іх праводзяць, на тэрмін да 3 гадзінаў, правяраць адзняты матэрыял.

На зварот ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" з просьбай прадаставіць гэтае ўказанне МУС адказаў адмоўна, спасылаючыся на ўнутраны характар памянёнага дакумента, а таксама зважаючы на тое, што, маўляў, мова вядзецца "не пра забарону відэа-або фотаздымак адміністрацыйных будынкаў, а рэгулюе выключна дзеянні супрацоўнікаў органаў унутраных спраў".

Уцэлым колькасць кароткатэрміновых затрыманняў журналістаў у 2015 г. у параўнанні з іншымі гадамі ў мінулым паменшылася. За год было зарэгістравана 19 выпадкаў затрымання журналістаў, у той час як у 2014 г. – 29.

Ва ўсіх выпадках журналісты былі вызваленыя на працягу 3 гадзінаў з моманту затрымання без складання пратаколаў.

Пік затрыманняў журналістаў у Беларусі трапіў на паслявыбарчы 2011 год, калі БАЖ зафіксаваў 167 падобных выпадкаў. У далейшым колькасць затрыманняў журналістаў зніжалася, аднак з’явілася новая форма ціску на іх – прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ. З улікам гэтага агульная колькасць умяшальніцтва міліцыі ў журналісцкую дзейнасць у параўнанні з 2014 г. нават некалькі павялічылася: 47 здарэнняў у 2015 годзе (19 затрыманняў і 28 адміністрацыйных справаў за супрацу з замежнымі СМІ) супраць 39 здарэнняў у 2014 г. (29 затрыманняў і 10 адміністрацыйных справаў).

## Папярэджанні друкаваным СМІ

На пачатку 2015 г. Мінінфарм вынес 27 папярэджанняў 26 сродкам масавай інфармацыі. У большасці выпадкаў яны былі спрычыненыя няслушным, на думку Мінінфарма, указаннем у выходных дадзеных назвы рэгіструючага органу (“Міністэрства інфармацыі **РБ**” замест “Міністэрства інфармацыі**Рэспублікі Беларусь**”). Нязначнасць прычыны для вынясення папярэджанняў (пры тым, што пасля двух папярэджанняў на працягу года Мінінфарм мае права звярнуцца ў суд з позвай аб спыненні выпуску СМІ) паказвае, што іх мэтай магло быць павелічэнне самацэнзуры ў СМІ наконадні выбарчае кампаніі.

Усяго на працягу 2015 г. Міністэрства інфармацыі вынесла 36 папярэджанняў 34 сродкам масавай інфармацыі.

## Праблемы з распаўсюдам незалежных газетаў

З 1 ліпеня 2015 г. набылі моц папраўкі ў Закон “Аб сродках масавай інфармацыі”, якія ўвялі абавязковую рэгістрацыю распаўсюднікаў прадукцыі СМІ.

Некаторыя незалежныя СМІ, якія прадавалі значную частку сваіх накладаў праз гандлёвыя прадпрыемствы і прадпрымальнікаў, сутыкнуліся з памяншэннем колькасці кропак продажу сваёй прадукцыі, бо далёка не ўсе распаўсюднікі газетаў пагадзіліся звярнуцца ў Мінінфарм па дадатковую рэгістрацыю.

Асабліва гэта адбілася на выданнях, якія пазбаўленыя магчымасці рэалізоўваць сваю прадукцыю праз дзяржаўныя сістэмы “Белпошта” і “Саюздрук”, якія дамінуюць на рынку распаўсюду СМІ па падпісцы і ўраздроб. Увесну 2015 г. рэдакцыі “Газеты Слонімскай”, “Intex-press”, “Intex-press плюс”, “СНплюс. Свободные новости плюс” атрымалі чарговыя адказы на свае звароты аб іх уключэнні ў падпісныя каталогі “Белпошта” або продажы праз шапікі прадпрыемстваў “Саюздруку”. У верасні падобныя адмовы атрымалі рэдакцыі газетаў “Новы час” і “Барысаўскія навіны”.

Дзяржаўнае прадпрыемства “Белпочта”, якое з’яўляецца манапалістам у галіне распаўсюду СМІ па падпісцы, адмаўляецца ўключаць незалежныя СМІ ў падпісны каталог, спасылаючыся на тое, што гэта яго права, а не абавязак. З падобнай матывацыяй адмаўляюць выданням у распаўсюдзе прадпрыемствы “Саюздруку”.

*Праблемы з распаўсюдам незалежных друкаваных СМІ ўзніклі 10 год таму, напярэдадні прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2006 г. Тады РУП "Белпошта" адмовілася ўключаць у падпісныя каталогі, а прадпрыемствы "Саюздруку" – прадаваць праз газетныя шапікі каля 20 незалежных грамадска-палітычных газетаў. У выніку эканамічнай дыскрымінацыі багата якія з іх спынілі выданне. Толькі на хвалі пацяплення адносінаў з ЕС у 2008 г. "Белпошта" і прадпрыемствы "Саюздруку" аднавілі супрацу з вядучымі незалежнымі газетамі "Народная Воля" і "Наша Ніва". Цяпер праблемы з распаўсюдам праз прадпрыемствы "Белпошты" і/ці "Саюздруку" зазнаюць 9 недзяржаўных выданняў грамадска- палітычнай тэматыкі, якія складаюць палову з зарэгістраваных у Беларусі незалежных СМІ.*

Адначасова з гэтым падпіска на дзяржаўную прэсу адбывалася з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу. Гэтак, напрыканцы 2015 г. адміністрацыя Ленінскага раёна г.Мінска *"у мэтах забеспячэння праўдзівага інфармавання грамадзянаў пра сацыяльна-эканамічнае развіццё Рэспублікі Беларусь і ў сувязі з пачаткам падпісной кампаніі на 1-е паўгоддзе 2016 года"* звярнулася да кіраўнікоў арганізацыяў раёна з просьбай правесці падпіску "на асноўныя рэспубліканскія і гарадскія друкаваныя выданні" паводле спісу і адсправаздачыцца па яе выніках.

Падобныя факты былі зафіксаваныя ў Магілёве і Крычаве.

## Бюджэтнае фінансаванне дзяржаўных СМІ

Акрамя прэферэнцыяў, дзяржаўныя СМІ карыстаюцца з наўпростага фінансавання з дзяржбюджэту.

Паводле закону "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2016 г." ад 30 снежня 2015 г. на фінансаванне дзяржаўных СМІ прадугледжана вылучэнне 900 120 843,0 тыс. руб (каля 45 млн еўра).

У тым ліку на тэлебачанне і радыёвяшчанне – 734 815 075,0 тыс. руб (каля 36,6 млн еўра), на перыядычны друк і выдавецтвы - 69 154 793,0 тыс. руб (каля 3,5 млн еўра), на "іншыя пытанні ў галіне СМІ" - 96 150 975,0 тыс. руб (каля 4,7 млн еўра).

Пры гэтым фінансаванне вылучаецца на пазаконкурснай аснове. 26 дзяржаўных газетаў і часопісаў, якія атрымаюць дапамогу з рэспубліканскага бюджэту ў 2016 годзе, вызначаныя пастановай урада №966 ад 19 лістапада 2015 года.

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў інтэрнэце

1 студзеня 2015 г. набылі моц папраўкі ў закон "Аб сродках масавай інфармацыі", якія надалі Міністэрству інфармацыі права ў пазасудовым парадку абмяжоўваць доступ да любых інтэрнэт-рэсураў (у тым ліку нават за адно парушэнне заканадаўства аб СМІ).

Пры гэтым пералік інфармацыі, забароненай для распаўсюду ў СМІ, і да таго недакладна сфармуляваны, з магчымасцямі шырокай трактоўкі, быў дапоўнены пунктам "інфармацыя, распаўсюд якой можа нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь". Спасылаючыся на гэтую норму 18 чэрвеня Мінінфарм прыняў рашэнне аб абмежаванні доступу да сайту kyky.org. (Папярэджанні рэдакцыі сайту пры гэтым не выносіліся.) Як адзначалася ў паведамленні дзяржустановы, шэраг

публікацыяў сеткавага выдання *“ўтрымліваў прыніжальныя выказванні ў адносінах да дзяржаўнага свята Рэспублікі Беларусь – Дня Перамогі, грамадзянаў краіны, якія бяруць у ім удзела, аспрэчваецца значнасць дадзенай падзеі ў гісторыі дзяржавы, тым самым скажаецца гістарычная праўда пра Вялікую Айчынную вайну”*.

Доступ да сайту быў адноўлены праз 6 дзён, пасля таго як спрэчны матэрыял быў выдалены з сайту. Блакаванне сайту kyky.org было расцэненае адмыслоўцамі як папярэджанне інтэрнэт-супольнасці.

Усяго ў 2015 годзе Міністэрства інфармацыі абмяжоўвала доступ да 40 інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў. “З іх 18 інфармацыйных рэсурсаў заблакаваныя за распаўсюд інфармацыі, накіраванай на збыццё наркатычных сродкаў, 2 – за табуяваную лексіку, 5 – за неналежную рэкламу лекавых сродкаў, 1 – за прапаганду дзіцячай парнаграфіі, 1 – за распаўсюд інфармацыі, якая можа нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам, 2 – за рэкламу алкагольных напояў, 11 – за распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў,” – гаворыцца ў адказе Міністэрства інфармацыі на запыт БАЖ. Доступ да чатырох рэсурсаў быў адноўлены з цягам часу.

Аніводнага разу Міністэрства інфармацыі не выносіла папярэджанні ў адрас уладальнікаў інфармацыйных рэсурсаў у выпадку абмежавання доступу да адпаведных сайтаў.

*Палажэнне аб парадку абмежавання доступу да інфармацыйных рэсурсаў (іх складнікаў), размешчаных у глабальным кампутарным сеціве Інтэрнэт было зацверджанае 19 лютага 2015 г. Міністэрствам сувязі ды інфарматызацыі і Аператыўна-аналітычным цэнтрам пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Гэты дакумент прадугледжвае магчымасць блакавання не толькі інтэрнэт-рэсурсаў, вызначаных Міністэрствам інфармацыі, але і сродкаў забеспячэння ананімнасці (проксі-серверы, ананімныя сеткі кшталту Tor і інш.), якія дазваляюць карыстальнікам інтэрнэт-паслугаў наведваць інтэрнэт-рэсурсы, доступ да якіх абмяжоўваецца.(Сістэма аўтаматычнага пошуку ананімайзераў пачала функцыянаваць напрыканцы 2015 г.)*

*Палажэнне не прадугледжвае судовае абскарджванне рашэння Мініфарма пра блакаванне сайту. У адрозненне ад мінулага парадку, пры якім доступ да сайтаў з “чорнага спісу” абмяжоўваўся ў абавязковым парадку толькі для дзяржаўных органаў, установаў адукацыі і культуры, адцяпер яны блакуюцца для ўсіх карыстальнікаў Беларусі. Ранейшы “чорны спіс”, у які былі ўключаныя такія папулярныя інтэрнэт-рэсурсы, як www.charter97.org, www.belaruspartisan.org, http://spring96.org/, быў скасаваны.*

Акрамя выпадкаў абмежавання доступу да інтэрнэт-рэсурсаў у адпаведнасці з працэдурай, прадугледжанай заканадаўствам, у 2015 г. таксама былі зафіксаваныя выпадкі блакавання сайтаў па-за гэтай працэдурай. Гэтак, 3 кастрычніка сервер інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, на якім размешчаныя сайты самой інфармацыйнай кампаніі ды яе інтэрнэт-газеты Naviny.by, патрапілі пад буйную DDoS-атаку, якая працягвалася некалькі дзён.

19 снежня быў абмежаваны доступ да сайтаў belapan.com, belapan.by, naviny.by, belaruspartisan.org,udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by, charter97.org.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства “Белтэлекам”, якое з’яўляецца нацыянальным аператарам сувязі ў Беларусі, заявіла пра DDoS-атаку на абсталяванне цэнтру апрацоўкі дадзеных. Аднак пасля яе ліквідавання наступствы з доступам вырашаныя не былі.

У абодвух выпадках аніводная з дзяржаўных структураў не ўзяла на сябе адказнасць за блакаванне сайтаў.

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

*Нягледзячы на тое, што ў Беларусі Канстытуцыяй замацаваныя гарантыі свабоды выказвання меркавання і атрымання, захоўвання і распаўсюджвання інфармацыі, а таксама забароненая цэнзура, – заканадаўчымі актамі (у першую чаргу, Законам "Аб сродках масавай інфармацыі"), іншымі актамі заканадаўства і практыкай іх прымянення свабода СМІ ў рэспубліцы паўсюдна абмяжоўваецца. Дзяржава, усталяваўшы кантроль над традыцыйнымі медыямі, у апошні час спрабуе распаўсюдзіць яго на Інтэрнэт, а таксама кнігавыданне, распаўсюджванне кніг і прадукцыі СМІ.*

**1 студзеня 2015 г.** набылі моц папраўкі ў закон ***«Аб сродках масавай інфармацыі»***, якія зрабілі яшчэ больш жорсткім дзяржаўнае рэгуляванне медыйнай сферы. Папраўкі прадугледжваюць:

- Рэгістрацыю распаўсюднікаў прадукцыі СМІ; надаванне Міністэрству інфармацыі паўнамоцтваў забараняць гэтую іх дзейнасць;
- Распаўсюджанне на ўладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў (у тым ліку, замежных) абавязкаў і адказнасці, прадугледжаных Законам аб СМІ, без надавання ім правоў рэдакцый СМІ;
- Невыразна сфармуляваны пералік інфармацыі, забароненай да распаўсюджвання ў СМІ, а таксама інфармацыі, распаўсюджванне якой здольна нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь;
- Надаванне Міністэрству інфармацыі права абмяжоўвання доступу да Інтэрнэт-рэсурсаў, забароны дзейнасці распаўсюдніка прадукцыі СМІ.

**1 студзеня 2015 г.** набыў моц прэзідэнцкі ***Дэкрэт № 6 "Аб неадкладных мерах па супрацьдзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў»*** ад 28 снежня 2014 г. Ён закранае, сярод іншага, дзейнасць «інфармацыйных рэсурсаў, размешчаных у глабальнай кампутарнай сетцы Інтэрнэт». Дэкрэт ўтрымлівае нормы, якія нясуць у сабе пагрозы як свабоднаму распаўсюджванню інфармацыі, так і свабоднаму доступу да яе, а менавіта:

- Абавязак ўладальнікаў Інтэрнэт-рэсурсаў адсочваць кантэнт;
- Абмежаванне доступу да інфармацыйных рэсурсаў па ініцыятыве Міністэрства ўнутраных спраў;
- Адміністрацыйную адказнасць уладальнікаў Інтэрнэт-рэсурсаў за невыкананне патрабаванняў Міністэрства інфармацыі аб неабходнасці выдалення паведамленняў і (або) матэрыялаў, накіраваных на незаконны абарот наркотыкаў;
- Кантроль за наведвальнікамі Інтэрнэт-рэсурсаў: «фарміраванне і захоўванне актуальных звестак аб наведваемых карыстальнікамі Інтэрнэт-паслуг інфармацыйных рэсурсах».

**18 лютага** падчас выканання Дэкрэта прэзідэнта № 6 пастановай Міністэрства сувязі і інфарматызацыі № 6 была зацверджаная ***Інструкцыя аб парадку фарміравання і захоўвання звестак аб наведваемых карыстальнікамі Інтэрнэт-паслуг інфармацыйных рэсурсах.*** У адпаведнасці з ёй пастаўшчыкі Інтэрнэт-паслуг абавязаныя фарміраваць і захоўваць на працягу года актуальныя звесткі аб наведваемых фізічнымі і юрыдычнымі асобамі Інтэрнэт-рэсурсах, у прыватнасці:

- дадзеныя пра наведвальнікаў;
- звесткі аб усіх актываваных паслугах электрасувязі;
- дату, час пачатку і заканчэння злучэнняў, унутраны і знешні IP-адрасы і парты канцавой абаненцкай прылады (тэрмінала), даменнае імя або IP-адрас і порт наведанага карыстальнікам Інтэрнэт-паслуг Інтэрнэт-рэсурсу, аб'ём перададзеных і прынятых дадзеных.

**19 лютага** Міністэрства сувязі і інфарматызацыі і Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь зацвердзілі ***Палажэнне аб парадку абмежавання доступу да інфармацыйных рэсурсаў (іх складнікаў), размешчаных у глабальнай камп'ютэрнай сетцы Інтэрнэт.*** Гэты дакумент прыняты ў мэтах выканання прэзідэнцкага Дэкрэта № 6 і паправак у Закон аб СМІ – і шмат у чым паўтарае іх палажэнні. Сярод новаўвядзенняў – магчымасць блакавання Інтэрнэт-рэсурсаў, сродкаў забеспячэння ананімнасці (проксі-серверы, ананімныя сеткі кшталту Tor і г.д.), якія дазваляюць карыстальнікам Інтэрнэт-паслуг атрымліваць доступ да Інтэрнэт-рэсурсаў, доступ да якіх абмяжоўваецца. У адпаведнасці з вышэйпазначаным Палажэннем дапускаецца абмежаванне доступу да сайтаў:

- уладальнікам якіх цягам году былі вынесеныя два і больш пісьмовых папярэджанні Міністэрства інфармацыі;
- якія змяшчаюць інфармацыйныя паведамленні і (або) матэрыялы, накіраваныя на незаконны абарот наркотыкаў, іншую інфармацыю, забароненую або абмежаваную да распаўсюджвання ў адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, а таксама якія набылі законную моц рашэннямі суда;
- уладальнікі якіх не выканалі законнае патрабаванне дзяржаўнага органа аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі.

Спіс сайтаў абмежаванага доступу фарміруецца на падставе рашэнняў Міністэрства інфармацыі. У выпадку выяўлення ўпаўнаважанымі дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі ў адпаведнасці з іх кампетэнцыяй фактаў размяшчэння ў сетцы Інтэрнэт інфармацыйных паведамленняў і (або) матэрыялаў, якія змяшчаюць інфармацыю, распаўсюд якой забаронены, гэтыя дзяржаўныя органы і арганізацыі маюць права накіраваць у Міністэрства інфармацыі пісьмовыя паведамленні аб неабходнасці абмежавання доступу да такой інфармацыі. Іншыя арганізацыі і фізічныя асобы могуць звяртацца ў адпаведнасці з заканадаўствам аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб ва ўпаўнаважаныя дзяржаўныя органы і арганізацыі з прапановамі аб абмежаванні доступу.

У адрозненне ад раней існуючага парадку, пры якім доступ да сайтаў з «чорнага спісу» абмяжоўваўся у абавязковым парадку толькі для дзяржаўных органаў, установаў адукацыі і культуры, цяпер такія сайты блакуюцца для ўсіх карыстальнікаў Беларусі. Судовае абскарджанне рашэння Мінінфарма аб блакаваньні сайта Палажэннем не прадугледжана.

**17 красавіка** Міністэрства інфармацыі прыняло пастанову № 3 "Аб некаторых пытаннях дзяржаўнага рэгулявання дзейнасці распаўсюднікаў прадукцыі друкаваных, тэлевізійных і радыёвяшчальных сродкаў масавай інфармацыі». Пастанова рэгулюе парадак рэгістрацыі распаўсюднікаў СМІ, прадугледжанай папраўкамі ў закон "Аб сродках масавай інфармацыі», унесенымі напрыканцы 2014 г. Усе распаўсюднікі прадукцыі СМІ (акрамя рэдакцый СМІ) абавязаныя да 1 ліпеня 2015 г. накіраваць у Міністэрства інфармацыі звесткі, неабходныя для ўключэння іх у адпаведны Дзяржаўны рэестр. Далейшая дзейнасць без уключэння ў Рэестр будзе лічыцца

незаконнай. Міністэрства інфармацыі атрымала магчымасці прымяняць да распаўсюднікаў СМІ санкцыі аж да забароны іх дзейнасці. Пры гэтым распаўсюднікі, пад пагрозай гэтых санкцый, фактычна вымушаныя адсочваць кантэнт медыяў, што можа стварыць глебу для схаванай цэнзуры.

**13 мая** была прынятая ***Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 407 "Аб зацвярджэнні пераліку тэлепраграм, якія ўваходзяць у абавязковы агульнадаступны пакет тэлепраграм, і вызначэнні паслядоўнасці (чарговасці) іх распаўсюджвання"***. Згодна з гэтай пастановай, з 1 ліпеня 2015 г. у абавязковы агульнадаступны пакет тэлепраграм, якія распаўсюджваюцца аператарамі і пастаўшчыкамі паслуг электрасувязі і павінныя папярэднічаць іншым тэлепраграмам, уваходзяць:

1. Тэлепраграма «Беларусь 1».
2. Тэлепраграма «Агульнанацыянальнае тэлебачанне».
3. Тэлепраграма «Сталічнае тэлебачанне».
4. Тэлепраграма "Мір".
5. Тэлепраграма «Расія-Беларусь».
6. Тэлепраграма "НТВ-Беларусь».
7. Тэлепраграма «Беларусь 2».
8. Тэлепраграма "Беларусь 3".
9. Тэлепраграма «Беларусь 5».

**16 чэрвеня** Пастановай Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь № 52 была зацверджаная ***Інструкцыя аб парадку прадстаўлення і распаўсюду афіцыйнай статыстычнай інфармацыі, якая фарміруецца органамі дзяржаўнай статыстыкі.***

Сродкам масавай інфармацыі органы дзяржаўнай статыстыкі бясплатна прадстаўляюць афіцыйную статыстычную інфармацыю ў выглядзе прэс-рэлізаў, паведамленняў, каментароў і іншых інфармацыйных матэрыялаў.

Распаўсюд афіцыйнай статыстычнай інфармацыі, фарміраванне якой не прадугледжана праграмай статыстычных работ і (або) патрабуе дадатковых працоўных і матэрыяльных затрат, ажыццяўляецца Інфармацыйна-вылічальным цэнтрам Нацыянальнага статыстычнага камітэта на платнай аснове ў адпаведнасці з заключанымі дамовамі або па разавых запытах. Запыты накіроўваюцца ў пісьмовай форме і павінны змяшчаць пералік статыстычных выданняў або пералік неабходнай статыстычнай інфармацыі, справаздачныя перыяды, жаданыя носьбіты прадстаўлення інфармацыі, мэту далейшага выкарыстання афіцыйнай статыстычнай інфармацыі. Падставай для адмовы ў прадастаўленні або распаўсюдзе афіцыйнай статыстычнай інфармацыі могуць быць абмежаванні на распаўсюд запытваемай інфармацыі, устаноўленыя заканадаўствам, або адсутнасць запытваемай афіцыйнай статыстычнай інфармацыі, пра што паведамляецца карыстальніку з указаннем прычын адмовы.

**17 чэрвеня** Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 505 зацверджана ***Палажэнне аб парадку распаўсюджвання тэлепраграм, якія ўваходзяць у абавязковы агульнадаступны пакет тэлепраграм.*** Эфірная трансляцыя агульнадаступнага пакета на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам «Беларускі радыётэлевізійны перадаючы цэнтр» у лічбавым фармаце пры наяўнасці тэхнічнай магчымасці ў адкрытым доступе.

Распаўсюджванне агульнадаступнага пакета ажыццяўляецца на ўмовах дамовы аб аказанні паслуг электрасувязі і (або) дамовы арэнды тэхнічных сродкаў, заключаных паміж юрыдычнай асобай, на якую ўскладзеныя функцыі рэдакцыі сродку масавай інфармацыі і аператарам электрасувязі або пастаўшчыком паслуг электрасувязі па

прыкладных формах, што ўстаноўліваюцца Міністэрствам інфармацыі сумесна з Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі.

Прадугледжаны абавязак аператара электрасувязі, пастаўшчыка паслуг электрасувязі, забяспечыць аказанне паслуг па прадастаўленні абанентам агульнадаступнага пакета належнай якасці ў поўным аб'ёме, без змянення формы і зместу тэлепраграм.

**19 лістапада** была прынятая Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 966 ***"Аб зацверджанні пераліку друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, рэдакцыям якіх ў 2016 годзе аказваецца падтрымка з рэспубліканскага бюджэту»***. У гэты пералік былі ўключаныя 26 дзяржаўных газет і часопісаў.

**30 снежня** быў прыняты ***Закон «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2016 год»***, якім прадугледжана вылучэнне каля 900 120 843,0 тыс. рублёў (каля 45 мільёнаў еўра) на фінансаванне дзяржаўных СМІ. У тым ліку, на тэлебачанне і радыёвяшчанне – 734 815 075,0 тыс. рублёў (каля 36,6 млн еўра), на перыядычны друк і выдавецтвы – 69 154 793,0 тыс. рублёў (каля 3,5 млн еўра), на "іншыя пытанні ў галіне СМІ" – 96 150 975,0 тыс. рублёў (каля 4,7 млн. еўра). Фінансаванне было вылучана на пазаконкурснай аснове.

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў ГАЛІНЕ СМІ

## Судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)

**21 студзеня** Магілёўскі аблсуд адхіліў касацыйную скаргу прадстаўнікоў незалежнай крычаўскай газеты "Вольны горад" на рашэнне суда Крычаўскага раёна, які аштрафаваў іх на 7 млн. рублёў на карысць галоўнага ідыёлага раёна. **8 снежня** 2014 г. Крычаўскі раённы суд пастанавіў, што артыкул "Не ў сваім крэсле?", апублікаваны ў "Вольным горадзе", нанёс урон гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі начальніка аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Марыны Максімавай.

**23 студзеня** Вярхоўны суд Беларусі адхіліў заяву газеты “Народная воля” аб прызнанні несапраўдным папярэджання Мінінфарма. Папярэджанне было вынесенае **18 лістапада 2014 г.** за артыкул “На цепь!”, размешчаны ў якасці аўтарскай калонкі Святланы Калінкінай у нумары ад 3 кастрычніка. У ім публіцыстка разважала пра магчымыя наступствы ратыфікацыі дамовы пра стварэнне Еўразійскага эканамічнага саюза. Чыноўнікі Мінінфарма ўбачылі ў аўтарскім меркаванні парушэнне канстытуцыйных правоў грамадзянаў і магчымае нанясенне шкоды інтарэсам Рэспублікі Беларусь. Суддзя Алена Кастрама пакінула папярэджанне газеце ў сіле.

**17 лютага** судовая калегія па грамадзянскіх справах Магілёўскага аблсуда адхіліла касацыйную скаргу інфармагенцтва “БелаПАН”, рэдакцыі газеты "УзГорак" і журналіста БелаПАН Уладзіміра Лапцэвіча. Журналісты спрабавалі абскардзіць рашэнне суда Горацкага раёна па пазове старшыні Горацкай раённай арганізацыі Беларускага таварыства інвалідаў Тамары Калтуновай, якая палічыла, што апублікаваныя БелаПАН і “УзГоркам” выказванні яе апанентаў у судзе ганьбяць яе гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю. **18 снежня 2014 г.** Горацкі райсуд пастанавіў спагнаць на карысць Калтуновай з ПГВУП “УзГорак”, ЗАТ “БелаПАН” і журналіста Уладзіміра Лапцэвіча ў салідарным парадку 6 млн рублёў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды.

**16 красавіка** суд Слонімскага раёна адмовіўся задаволіць зыск кіроўцы рэйсавага аўтобуса г. Слоніма да журналісткі “Газеты Слонімскай” і рэдакцыі газеты, якая выступала суадказчыкам. Падставаю для звароту ў суд была публікацыя «Равнодушие пугает» ад 4 лютага 2015 г. за подпісам Таццяны Плахеткі. У артыкуле журналістка апісвала сітуацыю з удзелам сваёй 7-гадовай дачкі: дзяўчынка ехала ў аўтобусе без бацькоў і не змагла выйсці на патрэбным прыпынку ля школы, бо кіроўца на ім не спыніўся. Зыскоўца даводзіў, што ў артыкуле былі распаўсюджаныя звесткі, “якія не ў поўнай меры адпавядаюць рэчаіснасці” і зневажаюць яго гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю. Таксама ён дамагаўся, каб журналістка прынесла яму прабачэнні, выплаціла кампенсацыю маральных стратаў у памеры 5 млн рублёў і пакрыла судовыя выдаткі (дзяржаўная пошліна ў памеры 540 тыс. рублёў).

**25 красавіка** суд Барысаўскага раёна задаволіў пазоў участковай медсястры Е. Панцялей да газеты “Борисовские новости” і аўтаркі ліста ў рэдакцыю Л. Казлоўскай аб абароне дзелавой рэпутацыі і спагнанні кампенсацыі маральнай шкоды за артыкул “Кто виноват в смерти пациента 2-ой поликлиники?”, апублікаванай 24 снежня 2014 г. у выпуску “БН” № 52. Суддзя Інна Войтка пастанавіла спагнаць 4 млн руб. салідарна: 3 млн руб. – з “Борисовских новостей”, 1 млн руб. – з Казлоўскай. Акрамя гэтага, адказчыкам належыць кампенсаваць судовыя выдаткі пазоўніцы: 7 млн 935 тыс. руб.

мае выплаціць рэдакцыя газеты, 2 млн 645 тыс. – суадказчыца. Суд таксама абавязаў газету апублікаваць цягам месяца рэзалютыўную частку рашэння суда. **4 чэрвеня** Менскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу рэдакцыі газеты "Борисовские новости" і аўтара ліста ў рэдакцыю.

**28 красавіка** Вярхоўны суд (суддзя Кацярына Караткевіч) адхіліў заяву ТАА “Выдавецкі дом “Інтэкс-прэс” да Міністэрства інфармацыі аб прызнанні несапраўдным пісьмовага папярэджання газеце “Intex-press” за скарачэнне “РБ” у выходных дадзеных. Падчас судовых слуханняў прадстаўнікі “Intex-press” спрабавалі давесці суду, што скарачэнне “РБ” замест слоў “Рэспубліка Беларусь” шырока ўжываецца органамі дзяржаўнай улады і нават прысутнічае ў прэзідэнцкіх указах.

**19 траўня** стала вядома, што Вярхоўны суд Беларусі дамагаецца, каб Польшча забараніла тэлеканалу "Белсат" выкарыстоўваць свой лагатып. Акруговы суд у Варшаве атрымаў рашэнне беларускага Вярхоўнага суда датычна забароны ўжывання таварнага знака "Белсат". Абапіраючыся на палажэнні Грамадзянскага працэсуальнага кодэкса, гаспадарчы аддзел раённага суда ў Варшаве можа забараніць "Белсату" выкарыстоўваць свой таварны знак на тэрыторыі Беларусі. Перад прыняццем свайго рашэння суд у Варшаве папрасіў тэлебачанне TVP, часткай якога з'яўляецца "Белсат", прадставіць сваю пазіцыю. Беларускія суддзі хочуць, каб польскі суд прызнаў іх рашэнне, згодна з якім "Белсат" парушае правы мінскага прадпрымальніка. Кіраўніцтва тэлеканала лічыць рашэнне беларускага суда палітычна матываваным.

*У верасні 2014 года Вярхоўны суд Беларусі задаволіў зыск прадпрымальніка Андрэя Белякова і забараніў тэлеканалу выкарыстоўваць гандлёвы знак "Белсат ТВ" пры трансляцыі на тэрыторыю Беларусі і на інтэрнэт-старонцы.*

## Затрыманні журналістаў, судовы адміністрацыйны пераслед

*Цягам года журналісты 19 разоў затрымліваліся і 37 разоў прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці (з іх у 4 выпадках адміністрацыйны пераслед быў спынены).*

*Акрамя таго, адміністрацыйны працэс распачынаўся ў дачыненні да сродка масавай інфармацыі – «Газеты Слонімскай», – па артыкуле 23.33 КаАП за распаўсюд заведама ілжывых звестак, якія ганьбяць гонар і годнасць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь; ён быў спынены.*

*Найчасцей журналісты атрымлівалі адміністрацыйнае спагнанне за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі МЗС, якое трактавалася як «незаконны выраб і (або) распаўсюджванне прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі» (арт. 22.9 КаАП РБ) – 28 разоў (дзве справы такога кшталту былі спыненыя). Некаторыя журналісты былі аштрафаваныя па гэтым артыкуле шматкроць: у прыватнасці, Кастусь Жукоўскі – 6 разоў, Аліна Літвінчук і Наталля Крывашэй – па 4 разы. Агульная сума штрафаў склала больш за 146 мільёнаў беларускіх рублёў (каля 8 тыс. еўра на момант вынясення штрафаў).*

*Акрамя гэтага, журналісты прыцягваліся да адказнасці за ўдзел у несанкцыяваным масавым мерапрыемстве (арт. 23.34 КаАП РБ), і за паклёп (арт. 9.2 КаАП РБ) і абразу (арт. 9.3 КаАП РБ).*

**8 студзеня** Гродзенскі абласны суд адхіліў скаргу сябра ГА “БАЖ” з Гродна Андрэя Мялешкі. Журналіст абскарджваў пастанову суддзі Ленінскага райсуда Гродна Юрыя Казакевіча, які **2 снежня 2014 г.** аштрафаваў яго за журналісцкую дзейнасць без

акрэдытацыі на карысць замежнага СМІ – “Беларускага Радыё Рацыя” ў адпаведнасці з арт. 22. 9 ч. 2 КаАП.

**12 студзеня** суд Ленінскага раёна Брэста (суддзя Святаслаў Каліна) аштрафаваў журналістку Аліну Літвінчук на 30 базавых велічынь за працу без акрэдытацыі на карысць замежнага СМІ. Яе абвінавацілі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ паводле арт. 22.9 ч. 2 КаАП. У прыватнасці, у матэрыялах справы фігуравала “перадача інфармацыі” пра дзейнасць Брэсцкага абласнога аддзялення арганізацыі “Хрысціянская садружнасць дарослых і маладых” (YMCA), якой была прысвечаная публікацыя на сайце “Беларускага Радыё Рацыя”.

**14 студзеня** незалежны журналіст, сябра ГА “БАЖ” Алесь Ляўчук атрымаў з Брэсцкай пракуратуры адказ на сваю скаргу датычна парушэнняў, што мелі месца падчас складання на яго адміністрацыйнага пратакола паводле ч. 2 арт. 22.9. На падставе гэтага пратакола Ляўчук быў пакараны штрафам у памеры 40 базавых велічыняў за працу без акрэдытацыі на карысць тэлеканала “Белсат”. З адказу за подпісам намесніка пракурора Брэста Івана Чайчыца вынікае, што пракуратура адмовілася разглядаць скаргу журналіста на дзеянні супрацоўніка міліцыі.

**19 студзеня** суд Кастрычніцкага раёна Мінска аштрафаваў блогерку Алену Стогаву (Мельнікаву) на 3 млн 600 тыс. рублёў. Яе прызналі вінаватай у абразе прапаршчыка міліцыі — той падаў у суд за яе пост у ЖЧ, у якім згадваліся словы “менты” і “ментоўская краіна”, "ненавіджу вас усёй душой". Галоўная прэтэнзія міліцыянера: у допісе быў змешчаны яго фотаздымак, таму ён палічыў, што ўсё было выказана на яго адрас. Блогерка прызнала, што гэта яе допіс, але не прызнала віны. Паводле яе словаў, яна выказвала стаўленне да сітуацыі, а не да канкрэтнага міліцыянера. У снежні 2014 г. ахоўнікі метрапалітэна не пусцілі Стогаву на платформу метро. Яны палічылі, што дзяўчына была ў нецвярозым стане. Стогаву гэты факт абурыў і яна напісала пост, дзе і выкарыстала ўзгаданыя словы.

**22 студзеня** Брэсцкі абласны суд адхіліў касацыйныя скаргі брэсцкага журналіста Алеся Ляўчука і незалежнай журналісткі з г. Бярозы Тамары Шчапёткінай. Абодвух суды першай інстанцыі **ў снежні 2014 г.** прызналі вінаватымі ў “незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ”, а па сутнасці – у супрацы з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

**23 студзеня** здымачная група СТВ са схаванай камерай праводзіла эксперымент, як жыхары памежжа дапамагаюць памежнікам у ахове мяжы і ў затрыманні патэнцыйных парушальнікаў. Карэспандэнтка тэлеканала з вялікай торбай пыталася ў вяскоўцаў, як дабрацца да мяжы з Літвой, калі на месцы з'явіліся супрацоўнікі Гродзенскай памежнай групы. Пасля гэтага здымачная група была дастаўленая на пост, дзе каля дзвух гадзін доўжыліся разбор і прафілактычная гутарка з журналістамі.

**23 студзеня** Светлагорскі раённы суд (суддзя Ірына Алісейка) аштрафаваў гомельскіх тэлежурналістаў Ларысу Шчыракову і Кастуся Жукоўскага на 900 тысяч рублёў кожнага за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (ч. 1 арт. 23.34 КаАП). Нагодай для адміністрацыйных справаў супраць Шчыраковай і Жукоўскага стала іх прысутнасць на плошчы перад Светлагорскім райвыканкамам 25 лістапада, калі жыхар горада Юрый Ляшэнка пратэставаў супраць парушэння правоў інвалідаў падчас капітальнага рамону дома, у якім ён жыве. Журналісты асвятлялі гэтую падзею.

**16 лютага** незалежная журналістка з Брэста Аліна Літвінчук была аштрафаваная Ленінскім раённым судом Брэста (суддзя Аляксандр Семянчук) на 40 базавых велічынь за незаконны выраб прадукцыі СМІ. Згодна з пастановай суда, 8 студзеня 2015 г. А. Літвінчук, не маючы акрэдытацыі, узяла інтэрв’ю ў старшыні Брэсцкага абласнога

аддзялення Беларускага фонда міру Лідзіі Раманюк для "Беларускага Радыё Рацыя", чым парушыла Закон "Аб СМІ". Судовая пастанова стала для журналісткі поўнай нечаканасцю, бо ні пра складзены міліцыяй адміністрацыйны пратакол, ні пра судовае разбіральніцтва яе ніхто не інфармаваў.

**20 лютага** ў Мінску людзі ў цывільным затрымалі фатографа газеты "Наша Ніва" Сяргея Гудзіліна. Інцыдэнт здарыўся, калі журналіст асвятляў працэс расклейвання грамадскімі актывістамі ў цэнтры горада плакатаў да Дня роднай мовы. Журналіста разам з затрыманымі актывістамі пасадзілі ў міліцэйскую машыну і павезлі ў РУУС Савецкага раёна. Праз тры гадзіны Гудзіліна адпусцілі без складання пратакола.

**26 лютага** ўвечары ў цэнтры Мінска міліцыянты затрымалі на чатыры гадзіны супрацоўніка газеты "Комсомольская правда в Беларуси" Дзмітрыя Ласько за тое, што ён збіраўся сфатаграфаваць новую падсветку будынка Акадэміі навук. Затрыманага адвезлі ў Першамайскае РУУС, дзе пратрымалі да поўначы. Па словах Дз.Ласько, міліцыянты пільна разглядалі ўсе фотаздымкі з фотаапарата, цікавіліся прафесійнай дзейнасцю і склалі пратакол апытання. Міліцыянты спасылаліся на нейкую пастанову міністра ўнутраных спраў Беларусі ад 25 лютага 2015 года, паводле якога нібыта забаронена фатаграфаваць адміністрацыйныя будынкі. Пазней «Комсомольская правда» высветліла, што гаворка ішла пра "ўнутранае ўказанне" намесніка міністра ўнутраных спраў, начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Мікалая Мельчанкі.

**4 сакавіка** ў судзе Завадскога раёна г. Мінска, дзе слухалася крымінальная справа Дзяніса Замяталіна, міліцыянты затрымалі фотажурналіста Уладзіміра Грыдзіна. Па словах У. Грыдзіна, ён да пачатку працэсу пачаў наладжваць у зале суда фотаапарат, за што атрымаў заўвагу міліцыянтаў і быў затрыманы. Журналіста даставілі ў РУУС Завадскога раёна, дзе праверылі дакументы і здымкі ў фотаапараце. Грыдзіна вызвалілі прыкладна праз паўтары гадзіны. Праз пэўны час журналісту пачалі тэлефанаваць з пастарунку, настойваючы, каб ён вярнуўся нібыта для размовы з начальнікам РУУС. Журналіст адмовіўся.

**12 сакавіка** суд Цэнтральнага раёна Гомеля аштрафаваў незалежную журналістку Ларысу Шчыракову на 20 базавых велічыняў (3 млн 600 тыс. рублёў) за супрацу з замежным СМІ без акрэдытацыі. Суддзя Віктар Казачок прыняў рашэнне, што журналістка парушыла арт. 22.9 ч. 2 КаАП. На судзе Шчыракова заявіла пяць хадайніцтваў, ніводнае з іх суддзя Казачок не задаволіў. Падставай для адміністрацыйнай справы стаў тэлесюжэт на тэлеканале "Белсат" з апытаннем гомельскіх прадпрымальнікаў.

**17 сакавіка** ў Мінску людзі ў цывільным затрымалі карэспандэнтку Радыё "Свабода" Галіну Абакунчык. Затрыманне адбылося ў гандлёвым цэнтры "Экспабел" у момант, калі Аляксандр Лукашэнка ішоў на сустрэчу з прадпрымальнікамі. Увагу сілавікоў прыцягнула тое, што журналістка гутарыла з гандлярамі і запісвала іх адказы ў блакнот. Падставай для затрымання стала адсутнасць у Абакунчык акрэдытацыі на мерапрыемства. Галіну Абакунчык пасадзілі ў міліцэйскую машыну «дзеля высвятлення асобы» і праверылі дакументы. Пасля адзін з людзей у цывільным давёў журналістку да маршрутнага таксі і прасачыў, каб яна пакінула месца правядзення мерапрыемства.

**26 сакавіка** ў судзе Маскоўскага раёна Брэста адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы ў дачыненні да журналіста Алеся Ляўчука. Яго аштрафавалі на 21 базавую велічыню (3 млн 780 тыс. рублёў) за "незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ" (арт. 22.9 КаАП). Падставай для адміністрацыйнага пераследу стаў матэрыял на сайце тэлеканала "Белсат" за подпісам "АЛ". **18 сакавіка** капітан міліцыі Маскоўскага РАУС Брэста Раман Трафімук склаў на журналіста пратакол за парушэнне заканадаўства аб СМІ. З размовы з ім вынікала, што аўтарства Алеся Ляўчука нібыта пацвердзіла міліцыі

суразмоўца журналіста. **30 красавіка** Брэсцкі абласны суд (суддзя Андрэй Васілюк) адхіліў касацыйную скаргу Алеся Ляўчука.

**1 красавіка** суд Маскоўскага раёна Брэста аштрафаваў журналістку Іну Хоміч на 30 базавых велічыняў за супрацу з "Беларускім Радыё Рацыя" без акрэдытацыі. Суддзя Раіса Лабачэўская прызнала журналістку вінаватай у парушэнні арт. 22.9 ч. 2 КаАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). **29 красавіка** стала вядома, што Брэсцкі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу Іны Хоміч. Незалежная журналістка аспрэчвала пастанову суда Маскоўскага раёна Брэста, паводле якой яна была аштрафаваная на 30 базавых велічыняў за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі (арт. 22.9 КаАП).

**2 красавіка** суддзя Чыгуначнага раённага суда г. Гомеля Мікалай Бакуноў пастанавіў аштрафаваць на 30 базавых велічыняў (5,4 мільёна рублёў) фрылансера Кастуся Жукоўскага за “незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ” (ч. 2 арт. 22.9 КаАП), а фактычна за супрацу з замежным СМІ без акрэдытацыі. Падставай для справы стала нататка пад назвай “За забітае дзіцё пакаралі педагогаў ды медыкаў”, змешчаная 6 лютага на сайце тэлеканала “Белсат” за подпісам Алеся Яшчанкі. Як вынікае з адміністрацыйнай справы, сюжэт на тэлеканале “Белсат” адсачыла рэгіянальнае УУС, якое вядзе маніторынг публікацый. Чыгуначнаму РАУС г. Гомеля было даручана правесці разбіральніцтва. Капітан міліцыі Віктар Сцепаненка ездзіў у СШ №12, апытваў супрацоўнікаў навучальнай установы, якія фігуравалі ў відэасюжэце, паказваў фотаздымак Жукоўскага і пытаўся, ці ён вёў здымкі.

**9 красавіка** стала вядома, што суд Рэчыцкага раёна прызнаў гомельскую фрыланс-журналістку Ларысу Шчыракову вінаватай у “незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі” на падставе ч. 2 арт. 22.9 КаАП. Суддзя Святлана Пырх пастанавіла аштрафаваць яе на 25 базавых велічыняў (4,5 мільёна рублёў). Справу разглядалі яшчэ напрыканцы сакавіка і без удзелу журналісткі. Паводле пастановы суда, 6 лютага ў Рэчыцы Шчыракова, “не з’яўляючыся журналістам СМІ, не маючы на тое права, правяла інтэрв’юіраванне грамадзян, падрыхтавала відэасюжэт пад назвай “Адміністрацыя рынку ў Рэчыцы рабуе гандляроў”, які ў той жа дзень размясціла на сайце тэлеканала “Белсат””. Такое ж “парушэнне”, паводле судовай пастановы, Шчыракова ўчыніла і 12 лютага, падрыхтаваўшы відэасюжэт “Нялюдскія ўмовы на Рэчыцкім рынку”.

**22 красавіка** суд Ленінскага раёна Гродна прызнаў гродзенскіх журналістаў Алеся Дзянісава і Алеся Кіркевіча вінаватымі ў парушэнні арт. 22.9 КаАП за тое, што яны зрабілі для тэлеканала “Белсат” без акрэдытацыі МЗС Беларусі відэасюжэт пра выставу слуцкіх паясоў у Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі. Суддзя Алена Пятрова пастанавіла спагнаць з іх па 20 базавых велічыняў. **26 мая** Гродзенскі абласны суд пастанавіў пакінуць касацыйнай скаргі на гэтую пастанову суда без задавальнення.

**24 красавіка** суд Цэнтральнага раёна Гомеля аштрафаваў за “незаконнае інтэрв'юіраванне” журналістаў-фрылансераў Наталлю Крывашэй і Канстанціна Жукоўскага на 5,4 млн рублёў кожнага. Суддзя Марына Дамненка, разгледзеўшы адміністрацыйныя пратаколы, складзеныя Нараўлянскім РАУС, прызнала журналістаў вінаватымі ў парушэнні арт. 22.9 КаАП. Падставай для абвінавачання стаў відэасюжэт “Пажылыя людзі вымушаны плаціць за свае дамы ў 4 разы больш, чым за калгасныя”, паказаны 13 сакавіка ў эфіры тэлеканала “Белсат”.

**27 красавіка** суддзя Ленінскага раённага суда Брэста Святаслаў Каліна пастанавіў аштрафаваць Тамару Шчапёткіну за працу без акрэдытацыі на “Беларускае радыё Рацыя”, разгледзеўшы яе справу паўторна. Сума штрафу склала 40 базавых велічынь (7,2 млн рублёў). Паводле пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні (арт. 22.9 КаАП), 8 студзеня 2015 г. Шчапёткіна нібыта зрабіла інтэрв’ю з

супрацоўнікам ДАІ Сяргеем Неліповічам, якое з'явілася на інтэрнэт-старонцы "Радыё Рацыя". Першы раз суд разгледзеў справу Шчапёткінай **6 сакавіка**, прыняўшы аналагічную пастанову. **4 красавіка** стала вядома, што Брэсцкі абласны суд адправіў справу супраць Тамары Шчапёткінай на новы разгляд. Суддзя Наталля Сурма прызнала, што першы раз незалежную журналістку судзілі з парушэннямі заканадаўства. У прыватнасці, судовую позву на працэс Шчапёткіна не атрымала, а замест гэтага было даслана смс-паведамленне пра неабходнасць з'явіцца ў суд. Прыехаўшы ў Брэст, на разгляд справы яна так і не трапіла, бо суддзя Аляксандр Семянчук вырашыў правесці працэс без удзелу яе і адваката. **29 мая** Брэсцкі абласны суд (суддзя Наталля Сурма) адхіліў касацыйную скаргу журналісткі на пастанову ад 27 красавіка.

**29 красавіка** ў Мінску супрацоўнікі спецыяльнага батальёна міліцыі затрымалі незалежных тэлежурналістаў Сяргея Краўчука і Наталлю Валакіду, калі тыя здымалі ўдзельнікаў перфомансу каля Расійскай амбасады – "вяртання Расіі касметычкі" – валізы з эмблемай байкерскага клуба "Начныя ваўкі". Міліцыянты перапісалі пашпартныя звесткі журналістаў і прымусілі выдаліць відэазапіс перфомансу.

**15 мая** ў судзе Крычаўскага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы выдаўца газеты "Вольны горад" Уладзіміра Кудраўцава па абвінавачванні ў паклёпе (арт. 9.2. КаАП) на оперупаўнаважанага ГБЭП Крычаўскага РАУС Аляксандра Дзямешка. У газетным матэрыяле гаварылася пра спробу Кудраўцава прыцягнуць да адказнасці начальніка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Крычаўскага райвыканкама Марыну Максімаву. Згадваўся ў тэксце і оперупаўнаважаны А. Дзямешка, які праводзіў праверку па заяве Уладзіміра Кудраўцава. Суддзя Кацярына Шматкова накіравала справу ў Крычаўскі РАУС на дапрацоўку. Суддзя задаволіла хадайніцтва адказчыка – апытаць у якасьці сведкі рэдактара газеты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага, далучыць да матэрыялаў справы копію звароту В. Кудраўцава ў пракуратуру па прычыне пагроз з боку А. Дзямешкі (і копію адказу на гэты зварот з Крычаўскага РАУС), а таксама патрабаванне да РАУС прадставіць суду аўдыёзапіс гутаркі Уладзіміра Кудраўцава з Аляксандрам Дзямешкам. Пазоўнік А. Дзямешка ў суд не зьявіўся. У паўторным адміністрацыйным пратаколе, складзеным **25 мая**, начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Крычаўскага РАУС падпалкоўнік Вусік напісаў, што Кудраўцаў падрыхтаваў "загадзя ілжывую абразлівую выдумку" у дачыненні да А. Дзямешка – даў на сайт spring96.org для публікацыі інфармацыю, што той пагражаў яму крымінальнай справай. **4 чэрвеня** суд Крычаўскага раёна (суддзя Кацярына Шматкова) спыніў адміністрацыйную справу супраць Уладзіміра Кудраўцава ў сувязі са сканчэннем тэрміну прыцягнення яго да адміністрацыйнай адказнасці.

**18 мая** магілёўскі журналіст Аляксандр Буракоў атрымаў адказ з Вярхоўнага суда Беларусі на сваю наглядную скаргу, у задавальненні якой яму было адмоўлена. Журналіст прасіў адмяніць пастанову Ленінскага раённага суда Магілёва і Магілёўскага абласнога суда аб прызнанні яго вінаватым у незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ (ч. 2 арт. 22.9 КаАП РБ). **8 кастрычніка 2014 г.** А. Буракоў быў аштрафаваны на 40 базавых велічыняў (6 млн рублёў) за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі.

**22 мая** суддзя Гомельскага раённага суду Аляксандр Лісоўскі прызнаў незалежнага журналіста Кастуся Жукоўскага вінаватым у незаконным вырабе прадукцыі СМІ (арт. 22.9 ч. 2 КаАП) і аштрафаваў яго на 25 базавых велічыняў (4,5 млн рублёў). У віну журналісту міліцыя паставіла падрыхтоўку сюжэту для тэлеканала "Белсат" **24 сакавіка** без акрэдытацыі ў МЗС Беларусі. Па заканчэнні працэсу Жукоўскі хацеў зняць на відэа шыльду на будынку суда, за што быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. Разам з ім тады затрымалі журналістку Наталлю Крывашэй.

Яны правялі ў міліцэйскім пастарунку каля 3,5 гадзін. Журналістаў адпусцілі без складання пратаколаў, перапісаўшы асабістыя дадзеныя.

**1 чэрвеня** ў Брэсце працы фрылансераў Міланы Харытонавай і Алеся Ляўчука перашкаджаў незнаёмы. Інцыдэнт здарыўся, калі ў мясцовай краме журналісты здымалі відэасюжэт, як пасля "Дня без тытуню" з вітрын прыбіралі тытунёвыя вырабы. Вакол камеры пачаў скакаць хлопчык, замінаючы здымаць. Мілана Харытонава зрабіла яму заўвагу, пасля чаго бацька дзіцяці распачаў канфлікт. Па словах А. Ляўчука, ён паводзіў сябе агрэсіўна – хапаў рукамі штатыў, штурхнуў журналіста на зямлю, а пасля выклікаў міліцыю. Паколькі ў Міланы Харытонавай не аказалася пры сабе дакументаў, абодвух журналістаў адвезлі ў Маскоўскі РАУС Брэста для высвятлення асобаў. Прыкладна праз гадзіну, пасля апытання з нагоды абставінаў інцыдэнту, журналістаў адпусцілі без складання пратаколаў. Пазней стала вядома, што злачынца – былы міліцыянт.

**1 чэрвеня** суддзя суда Дзяржынскага раёна Іна Шайко пастанавіла аштрафаваць журналістаў Вольгу Чайчыц і Сяргея Краўчука на 30 базавых велічынь кожнага (па 5 млн 400 тыс. рублёў). Абодвух абвінавацілі ў парушэньні арт. 22.9 КоАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Падставай для складання пратаколаў стаў сюжэт з Фаніпаля (Дзяржынскі раён Мінскай вобласці) пра нядопуск здымачнай групы на грамадскае абмеркаванне генеральнага плана забудовы горада. Фаніпальская міліцыя раздрукавала тэкст і малюнкі сюжэту з сайта "Белсат" і абвінавацiла журналістаў у працы без акрэдытацыі на замежны тэлеканал.

**3 чэрвеня** суд Ленінскага раёна Брэста (суддзя Дзмітрый Шурын) аштрафаваў незалежную журналістку Аліну Літвінчук ў агульнай складанасці на 60 базавых велічынь за двайное парушэнне заканадаўства аб СМІ. У судзе разглядаліся адразу дзве адміністрацыйныя справы журналісткі па арт. 22.9 КаАП. Падставай для судовага пераследу сталі дзве публікацыі на сайце "Беларускага Радыё Рацыя": інтэрв'ю з прадпрымальніцай на дабрачынным кірмашы і інтэрв'ю з педагогам Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. У судзе фігуравалі раздрукоўкі згаданых матэрыялаў, таксама ў суд у якасці сведак выклікалі абедзвюх суразмоўніц журналісткі. Яны паведамілі, што мелі гутаркі з супрацоўнікамі КДБ адносна іх кантактаў з Літвінчук. У сваёй пастанове суддзя Шурын таксама спасылаецца на "інфармацыю начальніка УКДБ па Брэсцкай вобласці".

**5 чэрвеня** суд Буда-Кашалёўскага раёна разгледзеў адміністрацыйныя пратаколы ў дачыненні да гомельскіх журналістаў-фрылансераў Кастуся Жукоўскага і Наталлі Крывашэй. Абодвух прызналі вінаватымі ў парушэнні ч. 2 арт. 22.9 КоАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ) і аштрафавалі на 20 базавых велічынь кожнага (3 млн 600 тыс. рублёў). Падставай для складання міліцэйскіх пратаколаў стала падрыхтоўка журналістамі відэасюжэту аб зносе дамоў у Буда-Кашалёве напярэдадні "Дажынак". Сюжэт выкарыстаў тэлеканал "Белсат". Суд адбыўся без удзелу журналістаў: К. Жукоўскі не ведаў пра паседжанне, а Н. Крывашэй па тэлефоне запрасілі ў суд за некалькі гадзін да разгляду справы.

**9 чэрвеня** суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Алеся Осіпава аштрафавала журналіста-фрылансера Кастуся Жукоўскага на 30 базавых велічынь (5 млн 4 тыс. рублёў) за незаконны выраб прадукцыі СМІ (22.9 КаАП). Падставай стаў адміністрацыйны пратакол, падпісаны начальнікам аддзела грамадскага правапарадку і прафілактыкі Цэнтральнага РАУС Гомеля Юрыям Паніным. Згодна з пратаколам, **15 красавіка** на тэлеканале "Белсат" быў паказаны сюжэт пад назвай "Самагубства выкладчыцы", які "незаконна падрыхтаваў грамадзянін Канстанцін Жукоўскі, які не мае акрэдытацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у якасці карэспандэнта польскага

тэлеканала". Відэа было прысвечана сітуацыі вакол самагубства выкладчыцы ГДУ імя Ф. Скарыны, якая баялася страціць сваю працу і кватэру праз дзеянні кіраўніцтва ВНУ.

**10 чэрвеня** суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Марына Дамненка прысудзіла мясцовай журналістцы-фрылансеру Наталлі Крывашэй максімальна магчымы адміністрацыйны штраф за "незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ" без акрэдытацыі для тэлеканала "Белсат" – 50 базавых велічынь, што адпавядае 9 млн рублёў. Адміністрацыйную справу па ч. 2 арт. 22.9 КаАП у дачыненні да журналісткі распачаў Цэнтральны РАУС Гомеля па ініцыятыве УУС Гомельскага аблвыканкама. Падставай для гэтага стаў відэасюжэт "Самагубства выкладчыцы", паказаны **15 красавіка** ў эфіры спадарожнікавага тэлеканала "Белсат". За згаданы сюжэт **9 чэрвеня** таксама аштрафавалі К. Жукоўскага.

**10 чэрвеня** ў Мінску на ганку паліклінікі №20 былі затрыманыя журналісты-фрылансеры Аркадзь Несцярэнка і Анастасія Храловіч. Інцыдэнт здарыўся каля 7.40 раніцы, калі журналісты рабілі відэа-апытанне наведвальнікаў медустановы, якія вымушаныя былі некалькі гадзін стаяць у чарзе па талоны да лекараў. Спачатку журналісты размаўлялі з людзьмі ўнутры паліклінікі. Прадстаўнікі адміністрацыі папрасілі іх выйсці на вуліцу, а затым, як высветлілася, выклікалі міліцэйскі нарад. Затрыманых журналістаў даставілі ў Фрунзенскае РУУС, дзе пратрымалі каля пяці гадзін. У іх выдалілі відэазапіс, склалі пратакол апытання, а таксама правялі "прафілактычную размову" аб забароне праводзіць здымкі ў адміністрацыйных будынках без спецыяльнага дазволу. Падчас размовы прысутнічаў чалавек у цывільным.

**2 ліпеня** Рагачоўскі раённы суд (суддзя Аляксандр Крайнікаў) прызнаў гомельскіх журналістаў-фрылансераў Кастуся Жукоўскага і Наталлю Крывашэй вінаватымі ў незаконным вырабе прадукцыі СМІ для спадарожнікавага тэлеканала "Белсат". Журналісты былі аштрафаваныя па арт. 22.9 КаАП – кожны на 35 базавых велічыняў. Згодна з пратаколамі, складзенымі начальнікам аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Рагачоўскага РАУС Юрыем Астаповіч, **12 мая** ў Рагачове журналісты, не маючы акрэдытацыі ў якасці карэспандэнтаў СМІ, "правялі інтэрв'юіраванне грамадзян, тым самым незаконна вырабілі прадукцыю СМІ, а менавіта відэасюжэт пад назвай "Несалодкі густ крызісу. Чаму Рагачоўская згушчонка застаецца на складах?"". Згаданы відэасюжэт быў паказаны **14 мая** на тэлеканале "Белсат" і размешчаны на аднайменным сайце.

**2 ліпеня** суд Ленінскага раёна Брэста (суддзя Алег Міранюк) прызнаў журналіста Алеся Ляўчука вінаватым у парушэнні ч. 2 арт. 22.9 КаАП і пакараў максімальным для гэтага артыкула штрафам – 50 базавых велічынь (9 млн рублёў). Пазаштатнага карэспандэнта інфармагенцтва БелаПАН прыцягнулі да адказнасці за супрацоўніцтва са спадарожнікавым тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі. Падставай для гэтага стала інтэрв'ю з капітанам футбольнага клуба "Брэст" Раманам Васілюком, якое міліцыя знайшла на сайце тэлеканала "Белсат". Адміністрацыйны пратакол на Ляўчука склаў **23 чэрвеня** старэйшы лейтэнант міліцыі Барыс Дзмітрук.

**16 ліпеня** ў Рэчыцкім раёне былі затрыманыя незалежныя журналісты Кастусь Жукоўскі і Наталля Крывашэй. Яны здымалі відэасюжэт пра ўспышку ў гэтым рэгіёне невядомай хваробы свіней. Калі аб прысутнасці журналістаў даведаліся ў сельсавеце, то адразу патэлефанавалі ў ДАІ і паведамілі нумар машыны. Міліцыянты спынілі аўтамабіль журналістаў на сельскай дарозе і дзьве гадзіны складалі пратакол апытання, высвятляючы, навошта журналісты праводзілі відэаздымкі.

**17 ліпеня** ў г. Мар'інай Горка (Мінская вобл.) каля вайсковай часткі былі затрыманыя незалежныя тэлежурналісты Аляксандр Баразенка і Аркадзь Несцярэнка. Журналісты рыхтавалі матэрыял пра былога спецназаўца Вадзіма Васілеўскага, які

загінуў на Данбасе, ваюючы на баку сепаратыстаў. Падчас спробы пагутарыць з кіраўніцтвам 5-й асобнай брыгады, дзе да звальнення служыў Васілеўскі, журналістаў затрымалі міліцыянты і даставілі ў мясцовы РАУС. Затрыманне адбылося каля 14.00. Каля 17.15 стала вядома, што журналістаў вызвалілі, склаўшы пратаколы апытання і забраўшы флэш-карту відэакамеры з часткай знятага матэрыялу “на экспертызу”. Копію пратаколу канфіскацыі Баразенку выдаць адмовіліся. Журналіст сфатаграфаваў дакумент і пакінуў запіс у кнізе скаргаў. “Міліцыянты сказалі, што нас можа чакаць крымінальная справа, але па якім артыкуле – не паведамілі, а пасля адпусцілі”, – распавёў Аркадзь Несцярэнка.

**23 ліпеня** Глыбоцкі раённы суд аштрафаваў журналіста Змітра Лупача на 4,5 млн рублёў. Старшыня суда Ірына Казак прызнала журналіста вінаватым у парушэнні арт. 22.9 КоАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ), а па сутнасці – у супрацоўніцтве з замежным СМІ без акрэдытацыі. Падставай для прыцягнення да адказнасці стаў артыкул “Знайшліся сваякі пагранічніка, які загінуў на Глыбоччыне 17 верасня 1939 года”, размешчаны **9 чэрвеня** на сайце «Еўрарадыё». Спачатку суд быў прызначаны на **10 ліпеня**, але пратакол, складзены **26 чэрвеня** старшым інспектарам аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС Вячаславам Барылам, вярнулі на дапрацоўку ў міліцыю. На працягу гэтага часу Д. Лупачу давялося некалькі разоў сустрэцца з супрацоўнікамі КДБ. Па словах журналіста, яму прапаноўвалі даносіць на сяброў і калегаў, паведамляць пра дзейнасць членаў ГА “БАЖ” і апазіцыйных актывістаў у рэгіёне. Зміцер Лупач паведаміў пра гэта незалежным СМІ. Ён заявіў, што не будзе супрацоўнічаць са спецслужбай. **19 жніўня** Віцебскі абласны суд (суддзя Святлана Іванова) не задаволіў скаргу журналіста на пастанову Глыбоцкага раённага суда.

**27 ліпеня** суддзя Ленінскага раёна г. Магілёва Алена Волкава спыніла вытворчасць па адміністрацыйнай справе журналісткі Аліны Скрабуновай, паколькі скончыўся тэрмін прыцягнення яе да адказнасці. Журналістку вінавацілі ў парушэнні ч. 2 арт. 22.9 КоАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Першыя судовыя паседжанні прайшлі **23 і 24 ліпеня**, і абодва разы суддзя задавальняла хадайніцтвы журналісткі аб пераносе слуханняў, верагодна, у сувязі са шматлікімі парушэннямі ў афармленні дакументаў, дапушчанымі міліцыянтамі Ленінскага РАУС. Справу ў дачыненні да Скрабуновай завялі з нагоды сюжэту аб магілёўскім заводзе “Строммашына”, які выйшаў на тэлеканале “Белсат” 26 траўня.

**28 ліпеня** суд Глыбоцкага раёна аштрафаваў незалежную журналістку Таццяну Смоткіну на 4,5 млн рублёў за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі. Суддзя Людміла Вашчанка прызнала журналістку вінаватай у парушэнні арт. 22.9 КоАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Як вынікае з матэрыялаў справы, яе ініцыявала Глыбоцкая раённая пракуратура пасля з'яўлення на сайце “Беларускага Радыё Рацыя” (Польшча) артыкула “Дарогі ў Глыбокім стануць пазітыўнымі”. **19 жніўня** Віцебскі абласны суд (суддзя Святлана Іванова) не задаволіла скаргу Таццяны Смоткінай на пастанову Глыбоцкага раённага суда.

**29 ліпеня** ў Гомелі на ганку Цэнтральнага РУУС, перад якім павінен быў адбыцца пікет мясцовых жыхароў, міліцыя затрымала незалежных журналістаў Кастуся Жукоўскага і Наталлю Крывашэй. Міліцыянты склалі пратаколы апытання абодвух журналістаў з нагоды таго, што Кастусь Жукоўскі нібыта пагражаў ім. Прыкладна праз тры гадзіны журналістаў вызвалілі; тэхніку ў іх не забіралі.

**29 ліпеня** Кастрычніцкі раённы суд г. Магілёва спыніў адміністрацыйны працэс у дачыненні да журналіста і грамадскага актывіста Ігара Барысава. Яго абвінавачвалі ў парушэнні заканадаўства аб СМІ (ч. 2 арт. 22.9 КаАП), а таксама ў парушэнні парадку атрымання грашовай дапамогі з-за мяжы (ч. 2 арт. 23.24 КаАП). Суддзя Дзяніс Кісігін

задаволіў хадайніцтва Барысава аб спыненні справы ў сувязі са сканчэннем тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці. На адрас супрацоўнікаў Кастрычніцкага РАУС суд вынес прыватнае вызначэньне – у тым ліку за шэраг недакладнасцяў у афармленні дакументаў і перадачу справы ў суд пасля заканчэння тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

**5 жніўня** галоўнага рэдактара недзяржаўнага выдання "Газета Слонімская" Віктара Валадашчука выклікалі ў Слонімскае РАУС, дзе паведамілі, што ў дачыненні да юрыдычнай асобы, на якую ўскладзеныя функцыі рэдакцыі "Газеты Слонімскай", завялі адміністрацыйную справу паводле арт. 23.33 КаАП –"распаўсюд заведама непраўдзівых звестак, якія зневажаюць гонар і годнасць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Падставай стаў артыкул "Голас з вёскі. Галоўнае, што казаць прэзідэнт добра ўмее" ў нумары ад **29 ліпеня**. Публікацыя ўяўляла сабой апытанне вясковых жыхароў на тэму выбараў. Пазней справа была спыненая.

**19 жніўня** суд Ленінскага раёна Гродна (суддзя Юрый Казакевіч) прызнаў журналістаў Аляксандра Кіркевіча і Аляксандра Дзянісава вінаватымі ў парушэньні арт. 22.9 КаАП і аштрафаваў кожнага на 25 базавых велічыняў (па 4,5 млн рублёў). Нагодай для адміністрацыйнай справы стаў відэасюжэт пра выставу літоўскіх лялек у Гродна, размешчаны на сайце тэлеканала "Белсат". Журналістаў абвінавацілі ў падрыхтоўцы інфармацыйнага матэрыялу для замежнага СМІ без акрэдытацыі. Разгляд справы пачаўся **23 ліпеня**, але суддзя накіраваў матэрыялы на дапрацоўку ў міліцыю. **14 жніўня** працэс аднавіўся. Суд заслухаў сведкаў – мастака Аляксандра Сільвановіча і яго жонку, дырэктара выставачнай залы Ірыну Сільвановіч. Сведкі пацвердзілі, што яны давалі інтэрв'ю згаданым журналістам. **22 верасня** суддзя Гродзенскага абласнога суда Мікалай Рачынскі, разгледзеўшы касацыйныя скаргі фрылансераў Аляксандра Дзянісава і Аляксандра Кіркевіча, пакінуў у сіле пастанову суда першай інстанцыі.

**7 верасня** ў Мінску затрымалі пазаштатнага карэспандэнта газеты «Народная воля» Кацярыну Андрэеву, калі яна збіралася асвятляць пікет падманутых дольшчыкаў каля Палаца незалежнасці. Міліцыянты затрымалі журналістку разам з пікетоўцамі, нягледзячы на тое, што яна мела пры сабе пісьмовае рэдакцыйнае заданне. Андрэеву даставілі ў Цэнтральны РУУС Мінска, пратрымалі там недзе паўтары гадзіны, а затым адпусцілі без складання пратаколу.

**10 снежня** Свіслацкі раённы суд (суддзя Жанна Салогубик) аштрафаваў гарадзенскага журналіста і публіцыста Уладзіміра Хільмановіча на 40 базавых велічыняў. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мітынгу 31 кастрычніка 2015 г. у Свіслацкім раёне Гродзенскай вобласці. Тады больш за сто ўдзельнікаў дня памяці паўстанцаў 1863 года ўсклалі кветкі на магілу брата Кастуся Каліноўскага, ушанавалі памяць Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы і ў Якушоўцы, дзе калісьці стаяў дом сям'і Каліноўскіх. Усё мерапрыемства прайшло пад пільным наглядам супрацоўнікаў унутраных спраў.

**10 снежня** ўвечары ў Магілёве сябра БАЖ Яўгена Глушкова затрымалі супрацоўнікі міліцыі. Затрыманне адбылося, калі журналіст спрабаваў зняць на відэа рэпетыцыю адкрыцця памятнага знака супрацоўнікам дзяржбяспекі каля будынка Магілёўскага абласнога ўпраўлення КДБ. Па словах Глушкова, яго праводзілі ва ўпраўленне, дзе загадалі выдаліць зняты матэрыял.

**22 снежня** ў райцэнтры Карма Гомельскай вобласці міліцыя амаль на дзве гадзіны затрымала незалежных журналістаў Кастуся Жукоўскага і Аркадзя Малыша. У Карме былі праблемы з вода- і цеплазабеспячэннем. Па скарзе жыхароў журналісты і прыехалі падрыхтаваць інфармацыйны матэрыял на гэтую тэму, маючы пасведчанне індывідуальнага прадпрымальніка. Ініцыявала затрыманне журналістаў Таццяна Вяркеенка, часовая выканаўца абавязкаў начальніцы аддзела ідэалагічнай працы,

культуры і па справах моладзі Кармянскага райвыканкама. Яна сцвярджала, што перад вядзеннем здымкаў трэба падаваць пісьмовую заяўку ў ідэалагічны адзел, які павінен прыняць рашэнне. Кастуся Жукоўскага і Аркадзя Малыша прывезлі ў раённае аддзяленне міліцыі і ўзялі тлумачэнні. Пасля разбіральніцтва журналістаў адвезлі на месца, дзе яны рабілі відэаздымкі. У кнізе скаргаў і прапановаў Кармянскага райвыканкама Кастусь Жукоўскі пакінуў заяву пра перавышэнне службовых паўнамоцтваў прадстаўніцай ідэалагічнага аддзелу і стварэнне перашкодаў падчас відэаздымкаў.

## Выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі

*Цягам 2015 г. міліцыя двойчы адбірала кампутары ў журналістаў падчас праверак па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях.*

**12 сакавіка** раніцай ў Магілёве у кватэру рэдактара газеты “Наш Магілёў” Ігара Барысава прыйшлі пяцёра міліцыянтаў. Прад’явіўшы пастанову аб правядзенні агляду памяшкання на падставе здзяйснення праверкі па арт. 188 ч. 2 КК РБ (паклёп), яны зладзілі трохгадзінныператрус. У выніку ў журналіста забралі 6 камп’ютараў, 2 мадэмы і нататнікі. Пратакола вынятку Барысаву міліцыянты не выдалі. У праваахоўных органаў узніклі прэтэнзіі да аднаго з матэрыялаў, апублікаваных на сайце газеты «Наш Магілёў» – пра тое, што генеральны дырэктар магілёўскага прадпрыемства «Стужка» нібыта моцна прайграўся ў казіно. Паводле словаў міліцыянтаў, крымінальная справа распачатая не была, а толькі вядзецца праверка. У той жа дзень і на той жа падставе адбыўся ператрус у офісе магілёўскага праваабарончага цэнтра “Вясна”. Агляд памяшкання і выняцце камп’ютараў там праводзілі тыя ж самыя супрацоўнікі міліцыі, якія раніцай наведалі кватэру Ігара Барысава. **5 мая** Ігар Барысаў напісаў скаргу аб парушэнні яго правоў і парушэнні працэсуальных тэрмінаў падчас правядзення праверкі ў пракуратуру Магілёўскай вобласці. Ён прасіў неадкладна вярнуць яму два камп’ютары, мадэм і нататнік, паколькі міліцыя вярнула толькі адзін камп’ютар з трох забраных. **13 ліпеня** Ігара Барысава выклікалі ў Кастрычніцкі РАУС забраць кампутары, забраныя падчас ператрусу 12 сакавіка 2015 г. Журналісту растлумачылі, што праверка па факце паклёпу (арт. 188 ч. 2 КК РБ) на дырэктара прадпрыемства "Стужка" Сяргея Пятрова завершаная, і справу супраць Барысава не ўзбуджалі. Аднак міліцыянты паведамілі, што ў дачыненьні да Ігара Барысава распачалі дзьве новыя адміністрацыйныя справы – за парушэнне закона "Аб СМІ" (ч. 2 арт. 22.9 КаАП) і за атрыманне грашовай дапамогі з-за мяжы на дзейнасць выдання (ч. 2 арт. 23.24 КаАП). Журналіста часткова азнаёмілі з матэрыяламі справаў і ўручылі позву ў суд Кастрычніцкага раёна Магілёва на 15 ліпеня. Пазней дату разгляду справы двойчы пераносілі. **29 ліпеня** справа была спыненая ў сувязі са сканчэннем тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

**19 жніўня** ў Бярозаўцы (Лідскі раён Гродзенскай вобласці) два супрацоўнікі міліцыі ў цывільным правялі ператрус у кватэры, дзе жыве журналіст-фрылансер Юрый Дзяшук. Міліцыянты пераглядзелі паперы ў яго дома, а таксама забралі кампутар і прынтар, якія знаходзіўся ў непрацоўным стане. Санкцыю на ператрус даў раённы пракурор у рамках расследвання крымінальнай справы па факце правядзення флэшмобу ў Бярозаўцы 25 ліпеня 2015 г. 10 **лістапада** прадстаўнікі Следчага камітэта вярнулі Дзяшуку кампутар. Прынтар нібыта знаходзіўся на экспертызе ў Гродна.

## Пагрозы на адрас журналістаў і СМІ

**6 студзеня** ў зале суда Цэнтральнага раёна Мінска, дзе слухалася крымінальная справа аб моцным збіцці маладога мужчыны-гомасэксуала, сваякі абвінавачанага Дзмітрыя Лукашэвіча напалі на журналістаў, якія паспрабавалі зняць абвінавачанага на відэа. Падчас працэсу суддзя забараніў рабіць відэаздымкі. Пасля абвяшчэння перапынку ў судовым паседжанні журналіст Аляксандр Баразенка ўключыў відэакамеру, і ў гэты час сваякі абвінавачанага сталі прымяняць да яго сілу. Калі карэспандэнт Радыё “Свабода” Алег Грузьдзіловіч пачаў здымаць гэты інцыдэнт, ён сам стаў аб’ектам нападу з боку сястры абвінавачанага і яе мужа. Усё гэта адбывалася пры ўключанай відэакамеры.

## Папярэджанні, адміністрацыйны ціск

*Усяго цягам 2015 г. Міністэрства інфармацыі РБ вынесла 36 папярэджанняў 34 сродкам масавай інфармацыі. Большасць з іх было вынесена за ўжыванне скарачэння «РБ» ў выходных дадзеных выданняў.*

*Журналіст Павел Дайлід атрымаў папярэджанне пракуратуры за парушэнне закона "Аб сродках масавай інфармацыі”, якое выявілася ў размяшчэнні яго публікацыі на сайце Радыё “Свабода”. Сябры БАЖ неаднаразова выклікаліся ў міліцыю для «гутарак» з нагоды сваіх публікацый.*

**23 студзеня** Вярхоўны суд Беларусі адхіліў заяву газеты “Народная воля” аб прызнанні несапраўдным папярэджання Мініфарма. Папярэджанне было вынесенае **18 лістапада 2014 г.** за артыкул “На цепь!”, размешчаны ў аўтарскай калонцы Святланы Калінкінай у нумары ад 3 кастрычніка. У ім публіцыстка разважала пра магчымыя наступствы ратыфікацыі дамовы пра стварэнне Еўразійскага эканамічнага саюза. Чыноўнікі Мініфарма ўбачылі ў аўтарскім меркаванні парушэнне канстытуцыйных правоў грамадзянаў і магчымае нанясенне шкоды інтарэсам Рэспублікі Беларусь. Суддзя Алена Кастрама пакінула папярэджанне газеце ў сіле.

**25 лютага** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовыя папярэджанні недзяржаўным рэгіянальным газетам за подпісам міністра Ліліі Ананіч: баранавіцкай “Intex-press”, “Ганцавіцкаму часу” і “Газеце Слонімскай”.

Рэдакцыя “Газеты Слонімскай” была абвінавачаная ў парушэнні арт. 22 “Закона аб СМІ” – з той нагоды, што ў двух лютаўскіх нумарах (ад 11.02.2015 і ад 18.02.2015) у выданні не быў пазначаны наклад.

Рэдакцыі газет “Intex-Press” і “Ганцавіцкі час” дапусцілі парушэнні заканадаўства, ужыўшы скарачэнне “РБ” замест “Рэспубліка Беларусь” у выходных дадзеных выдання.

**27 лютага** ўвечары ўчастковы міліцыянер Аляксей Кароль завітаў дахаты да журналісткі Іны Хоміч. Перад гэтым ён па тэлефоне запрашаў журналістку на гутарку, але яна адмовілася ісці без афіцыйнай позвы. Міліцыянер цікавіўся мэтай яе паездкі 5 лютага ў аграгарадок Моталь Іванаўскага раёна. Высветлілася, што Іванаўскі РАУС завёў нейкую справу, з-за чаго спатрэбілася апытаць брэсцкую журналістку. Участковы пытаўся, дзе Іна Хоміч працуе, з якой мэтай ездзіла ў Моталь, з кім размаўляла і пра што. Таксама яго цікавіла, ці працуе яна на польскае “Радыё Рацыя”.

**2 сакавіка** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанні “аб недапушчэнні парушэння арт. 22 Закона аб СМІ” грамадска-палітычнаму штотыднёвіку “Борисовские новости” і газеце “Рекламный Боржоми”. Абодва выданні належаць прыватнаму

вытворчаму ўнітарнаму прадпрыемству “Букас медыя-цэнтр”. Падстава – скарачэнне “РБ” замест “Рэспубліка Беларусь” у выходных дадзеных выдання.

**6 сакавіка** Міністэрства інфармацыі паведаміла, што вынесла пісьмовыя папярэджанні шэрагу перыядычных выданняў, сярод якіх – дзяржаўныя часопіс “Вожык" і баранавіцкая газета “Наш край”. Пра гэта гаворыцца ў пісьмовым адказе міністэрства прэс-сакратару ГА “БАЖ” Барысу Гарэцкаму. У лютым-сакавіку Мініфарм вынес афіцыйныя папярэджанні адразу некалькім недзяржаўным выданням, абвінаваціўшы іх у незаконным скарачэнні “РБ” замест “Рэспубліка Беларусь” у выходных дадзеных. Між тым, падобныя скарачэнні журналісты заўважылі і ў дзяржаўных друкаваных СМІ. У сувязі з гэтым прэс-сакратар ГА “БАЖ” напісаў у Мініфарм ліст, каб даведацца, ці рэагавала ведамства на такія факты.

**14 сакавіка** ў Мінску журналіста Глеба Лабадзенку па тэлефоне выклікалі ў Савецкі РУУС для гутаркі ў якасці верагоднага сведкі злачынства. Паводле словаў Лабадзенкі, на яго пытанне пра прычыны выкліку міліцыянт адказаў, што гэта “таямніца следства”. Журналіст адмовіўся ісці без афіцыйнай позвы, у адказ на што атрымаў папярэджанне пра магчымасць прыезду “ў вельмі нязручны ранні час” і прымусовага прыводу. У такіх дзеяннях міліцыянта Г. Лабадзенка ўбачыў перавышэнне паўнамоцтваў і прамую пагрозу.

**17 сакавіка** ўвечары журналісту Андрэю Мялешку патэлефанавалі з гродзенскага аддзела міліцыі “Цэнтр” і сказалі, што хочуць “пагутарыць”. Мялешка катэгарычна адмовіўся ісці ў міліцыю без афіцыйнай позвы.

**17 сакавіка** журналіст Алесь Кіркевіч наведаў Ленінскае РУУС Гродна па выкліку позвай. Як высветлілася, міліцыя праводзіла праверку паводле звароту КДБ адносна магчымага парушэння арт. 22.9 ч. 2 КаАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). **18 сакавіка** па гэтай жа справе быў выкліканы ў міліцыю гродзенскі журналіст Алесь Дзянісаў. Падставай для праверкі стаў размешчаны на сайце тэлеканала “Белсат” відэасюжэт пра выставу слуцкіх паясоў у Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі. Як паведамілі журналісты, у матэрыялах праверкі былі скрыншоты з сайта. Таксама з іх вынікала, што супрацоўніцу музея Галіну Хімко, якая фігуравала ў сюжэце, выклікалі на гутарку ў КДБ і ў міліцыю для апазнання журналістаў па фотаздымках.

**18 сакавіка** журналіст Алесь Дзянісаў наведаў Ленінскае РУУС Гродна па выкліку позвай. Як высветлілася, міліцыя праводзіла праверку паводле звароту КДБ адносна магчымага парушэння арт. 22.9 ч. 2 КаАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). **17 сакавіка** па гэтай жа справе быў выкліканы ў міліцыю журналіст Алесь Кіркевіч. Падставай для праверкі стаў размешчаны на сайце тэлеканала “Белсат” відэасюжэт пра выставу слуцкіх паясоў у Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі. Як паведамілі журналісты, у матэрыялах праверкі былі скрыншоты з сайта. Таксама з іх вынікала, што супрацоўніцу музея Галіну Хімко, якая фігуравала ў сюжэце, выклікалі на гутарку ў КДБ і ў міліцыю для апазнання журналістаў па фотаздымках.

**19 сакавіка** рэдактар газеты і інтэрнэт-сайта “Наш Магілёў” Ігар Барысаў і яго жонка Алена Барысава па выкліку позвай сустрэліся з участковым інспектарам Кастрычніцкага РАУС Магілёва маёрам Казаковым. Міліцыянт хацеў узяць тлумачэнні ў межах праверкі на прадмет ўзбуджэння крымінальнай справы па арт. 188 ч. 2 Крымінальнага Кодэксу РБ (паклёп). Па словах Ігара Барысава, Казакоў жадаў высветліць, якое дачыненне журналіст мае да газеты “Наш Магілёў”. Журналіст у адпаведнасці з арт. 27 Канстытуцыі РБ адмовіўся даваць паказанні супраць сябе. Аналагічную заяву зрабіла і Алена Барысава. Раней, **12 сакавіка,** у кватэры Барысава быў праведзены агляд памяшкання на падставе праверкі па справе аб паклёпе.

**20 сакавіка** стала вядома, што недзяржаўная газета “Новы час” атрымала папярэджанне Міністэрства інфармацыі за ўжыванне скарачэнне “РБ” у выходных дадзеных. Дакумент быў датаваны **25 лютага**, але галоўны рэдактар Аляксей Кароль атрымаў яго па пошце пазней.

**28 красавіка** Вярхоўны суд (суддзя Кацярына Караткевіч) адхіліў заяву ТАА “Выдавецкі дом “Інтэкс-прэс” да Міністэрства інфармацыі і прызнаў законным пісьмовае папярэджанне газеце “Intex-press” за скарачэнне “РБ” у выходных дадзеных. Падчас судовых слуханняў прадстаўнікі “Intex-press” спрабавалі давесці суду, што скарачэнне “РБ” замест слоў “Рэспубліка Беларусь” шырока ўжываецца органамі дзяржаўнай улады і нават прысутнічае ў прэзідэнцкіх указах.

**12 траўня** стала вядома, што Міністэрства інфармацыі вынесла афіцыйнае папярэджанне газеце “Наше православие” Віцебскай праваслаўнай епархіі. Пра гэта паведаміла загадчыца сектарам рэгістрацыі СМІ і кантролю за выкананнем заканадаўства Мініінфарма Юлія Кочына. Аднак яна адмовілася паведаміць, у чым дакладна складаецца парушэнне рэдакцыяй закона аб СМІ. Раней паведамлялася, што грамадскі актывіст Алесь Галавань разам з іншымі праваслаўнымі вернікамі звярнуўся ў Мініінфарм з просьбай праверыць выпускі газеты “Наше православие” на адпаведнасць заканадаўству Рэспублікі Беларусь. Нагодай для звароту стала публікацыя з заклікам да праваслаўных брацьў удзел у ваенным канфлікце ў Украіне.

**8 чэрвеня** сябру ГА “БАЖ” Паўла Дайліда выклікалі ў пракуратуру Івацэвіцкага раёна і ўручылі пісьмовае папярэджанне “аб недапушчальнасці ажыццяўлення правапарушэнняў”. Дакумент быў падпісаны намеснікам пракурора Сяргеем Жуковічам. У ім паведамлялася, што раённая пракуратура правяла праверку паводле інфармацыі Бярозаўскага РАУС і прыйшла да высновы, што Павел Дайлід парушыў Закон “Аб СМІ”, размясціўшы публікацыю “Бунт у Споравe: сяляне патрабуюць вярнуць ім возера” на сайце Радыё “Свабода”.

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі

*Сярод парушэнняў права на доступ да інфармацыі можна адзначыць забароны журналістам ажыццяўляць свае прафесійныя абавязкі галоўным чынам з боку супрацоўнікаў дзяржаўных органаў і ўстановаў, адмову ў прадастаўленні інфармацыі незалежным журналістам і СМІ. Значная колькасць перашкодаў дзейнасці прэсы мела месца падчас правядзення прэзідэнцкіх выбараў, у прыватнасці, падчас прысутнасці на выбарчых участках і пры запытванні афіцыйнай інфармацыі аб ходзе выбараў.*

**19 студзеня** Мінскі гарадскі суд (пасля Ленінскага раённага суда г. Минска) адмовіўся разглядаць скаргу гродзенскага журналіста Віктара Парфёненкі на дзеянні Міністэрства замежных справаў, якое сем разоў адмаўляла яму ў акрэдытацыі ў якасці карэспандэнта замежнага СМІ – “Беларускага радыё Рацыя”. Пасля гэтага В. Парфёненка накіраваў наглядную скаргу на рашэнні судоў. **13 красавіка** на яе быў атрыманы адказ, у якім старшыня суда П. І. Каршуновіч сцвярджаў, што суды адмовілі журналісту ў распачынанні грамадзянскай справы законна.

**21 студзеня** Ленінскі раённы суд Магілёва адхіліў скаргу журналіста інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Уладзіміра Лапцэвіча на дзеянні службовых асобаў Магілёўскага аблсавета – старшыні Анатоля Ісачэнкі і галоўнага спецыяліста Яўгена Нальгачова. Суддзя Лапаціна вырашыла, што журналіста не пусцілі на паседжанні Магілёўскага аблсавета законна. У судзе Яўген Нальгачоў сцвярджаў, што для прысутнасці на сесіі трэба падаваць адмысловую заяву дзеля ўключэння ў спісы

запрошаных. Журналіст у судзе спасылаўся на беларускае заканадаўства, якое дае права прысутнічаць на адкрытых сесіях органаў прадстаўнічай улады не толькі журналістам, але і простым грамадзянам. **5 сакавіка** магілёўскі журналіст, карэспандэнт інфармагенцтва БелаПАН Уладзімір Лапцэвіч атрымаў адказ з Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў на свой запыт. Лапцэвіч прасіў указаць нарматыўны акт, згодна з якім журналіст СМІ абавязаны падаць заяўку на прысутнасць на адкрытых паседжаннях сесій аблсавета. Ён спасылаўся на законы "Аб СМІ" і "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні", якія не дапускаюць незаконнага абмежавання свабоды інфармацыі і вызначаюць галоснасць асноўным прынцыпам мясцовага кіравання. Старшыня аблсавета Анатоль Ісачэнка ў адказе напісаў, што аблсавет арганізуе сваю працу на падставе рэгламенту работы аблсавета, якім прадугледжваецца, што колькасны і персанальны склад запрошаных вызначаецца старшынёй Савета.

**25 чэрвеня** Уладзімір Лапцэвіч атрымаў адказ з Магілёўскага аблсавету на свой чарговы зварот да яго старшыні з просьбай патлумачыць, якімі прававымі актамі абумоўлена неабходнасць звароту журналіста СМІ, які хоча прысутнічаць на адкрытым пасяджэнні сесіі аблсавета, па дазвол на гэта. Старшыня савета Анатоль Ісачанка вымушаны быў прызнаць, што “нарматыўнымі прававымі актамі форма зваротаў журналіста для прысутнасці на паседжаннях сесіі і парадак іх разгляду не ўстаноўлены”. *Больш за год Лапцэвіч намагаўся патрапіць на адкрытыя паседжанні Магілёўскага абласнога савета дэпутатаў, аднак яму адмаўлялі ў гэтым, спасылаючыся на адсутнасць яго ў спісе запрошаных. Раней журналіст асвятляў падзеі ў эканамічнай, сацыяльнай і іншых сферах жыцця Магілёўскай вобласці, у тым ліку сесіі Магілёўскага аблсавету дэпутатаў, без усялякіх нараканняў з боку чыноўнікаў ці дэпутатаў.*

**22 студзеня** ў Мінску журналістам тэлеканала “Белсат” перашкодзілі здымаць акцыю ўшанавання памяці “Нябеснай сотні” Еўрамайдана, якую каля помніка Тарасу Шаўчэнку ладзілі грамадскія актывісты. Яшчэ да пачатку акцыі да тэлеаператара падыйшлі людзі ў цывільным. Яны заявілі, што, паколькі ў “Белсата” няма акрэдытацыі, то і аператару нічога здымаць нельга. Пасля гэтага яго адвялі пад рукі ад месца правядзення мерапрыемства.

**3 лютага** начальніца аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Бабруйскага райвыканкама Галіна Чарнова адмовілася даць запатрабаваную інфармацыю карэспандэнтцы газеты "Бобруйский курьер" Марыне Маўчанавай. Журналістка, рыхтуючы артыкул, патэлефанавала чыноўніцы, каб даведацца пра лёс музея Алеся Адамовіча ў пасёлку Глуша (Бабруйскі раён). У адказ атрымала адмову. На заўвагу журналісткі пра тое, што чыноўнікі не маюць права не прадастаўляць інфармацыю СМІ, Г. Чарнова адказала: “Так, я ведаю пра гэта, але канкрэтна вашаму выданню я нічога даваць не буду. Не хачу размаўляць з вашым СМІ”.

**5 лютага** брэсцкім журналістам Алесю Ляўчуку і Мілане Харытонавай не дазволілі праводзіць здымкі на тэрыторыі гісторыка-культурнага аб’екта, якому пагражае знішчэнне – калоніі Варбургаў. Па словах Ляўчука, на агароджаную тэрыторыю ахоўнік іх не пусціў, спаслаўшыся на неабходнасць адпаведнага дазволу ад фірмы-ўладальніка зямельнага участка, а таксама на адсутнасць у іх будаўнічых касак. Пры гэтым сам ахоўнік быў без каскі. Пасля да агароджы падбег невядомы мужчына, які паводзіў сябе вельмі агрэсіўна: абражаў журналістаў і пагражаў ударыць у твар. У выніку журналісты працягвалі здымкі ўжо за агароджанай пляцоўкай.

**13 лютага** журналіста-фрылансера Андрэя Мялешку прымусілі пакінуць выставу "Музей шакалада" ў гісторыка-археалагічным музеі Гродна. Першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі

Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Вярсоцкі заявіў, што, пакуль не будзе акрэдытацыі і пасведчання, журналіст не мае права браць інтэрв'ю ў гродзенскіх установах культуры. Прад'яўленае пасведчанне сябры ГА "БАЖ" на чыноўніка не падзейнічала. Вярсоцкі заявіў, што "такіх пасведчанняў ён можа намаляваць шмат", і папрасіў пакінуць памяшканне музея.

**26 лютага** ўвечары ў цэнтры Мінска міліцыянты затрымалі на чатыры гадзіны супрацоўніка газеты "Комсомольская правда» в Беларуси" Дзмітрыя Ласько за тое, што ён збіраўся сфатаграфаваць новую падсветку будынка Акадэміі навук. Міліцыянты спасылаліся на нейкую пастанову міністра ўнутраных спраў Беларусі ад 25 лютага 2015 года, паводле якой нібыта забаронена фатаграфаваць адміністрацыйныя будынкі. Пазней «Комсомольская правда» высветліла, што гаворка ішла пра "ўнутранае ўказанне" намесніка міністра ўнутраных спраў, начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Мікалая Мельчанкі.

**2 сакавіка** ў Глыбокім (Віцебская вобласць) незалежнага журналіста Змітра Лупача не ўпусцілі ў райвыканкам з фотаапаратам Nikon у сумцы. Міліцыянт заявіў, што "з прафесійнымі фотаапаратамі" ўваход у райвыканкам забаронены, спаслаўшыся на распараджэнне кіраўніка справамі райвыканкама. Зміцер Лупач вырашыў звярнуцца ў выканкам з афіцыйным запытам – якую канкрэтна фотатэхніку там лічаць "прафесійнай" і чым выкліканыя такія надзвычайныя захады перасцярогі. **20 сакавіка** журналіст атрымаў адказ, з якога вынікала, што ніякіх афіцыйных дакументаў, якія рэгламентуюць правілы пропуску ў райвыканкам, няма.

**4 сакавіка** фотажурналіст Уладзімір Грыдзін быў затрыманы міліцыяй ў зале суда Завадскога раёна г. Мінска за тое, што перад пачаткам разгляду крымінальнага працэсу пачаў наладжваць прафесийнае абсталяванне. Журналіста даставілі ў РУУС Завадскога раёну, дзе ў яго праверылі дакументы і здымкі ў фотаапараце.

**4 сакавіка** праваабаронца, сябра ГА "БАЖ" Настасся Лойка атрымала адказ на сваю скаргу датычна падзеяў **23 студзеня**, калі журналісты не змаглі трапіць на суды над удзельнікамі акцыі памяці герояў Майдану. Акцыя адбылася ў Мінску 22 студзеня, а на наступны дзень большасць затрыманых яе ўдзельнікаў павінныя былі прывезці ў суд. Замест гэтага ў сярэдзіне дня стала вядома, што судзіць актывістаў будуць непасрэдна ў аддзяленні міліцыі Цэнтральнага раёна, куды нікога з журналістаў і праваабаронцаў не пусцілі. У прыватнасці, атрымаць інфармацыю пра справы і патрапіць на працэсы не здолелі сябры ГА "БАЖ" Таццяна Уласенка, Настасся Рэзнікава, Аляксей Шэін, Алег Груздзіловіч і Настасся Лойка. У сваім адказе намеснік старшыні Мінскага гарадскога суда Уладзімір Грыгаровіч заявіў, што разгляд адміністрацыйных спраў у дачыненні да актывістаў праходзіў у адкрытым судовым пасяджэнні, а інфармацыя пра працэсы над актывістамі нібыта вісела на стэндзе ў міліцыі.

**25 сакавіка** стала вядома, што Міністэрства замежных спраў адмовіла ў акрэдытацыі ў якасці журналіста "Беларускага Радыё Рацыя" Андрэю Мялешку з Гродна. Запыт на акрэдытацыю ён накіраваў у лістападзе 2014 г. У адмове начальнік упраўлення інфармацыі МЗС Д. Міройчык спаслаўся на пункты 10 і 15.4 Палажэння аб парадку акрэдытацыі журналістаў замежных СМІ. Гэта значыць, што, на думку МЗС, журналіст накіраваў не ўсе патрэбныя дакументы і раней працаваў на замежны СМІ без акрэдытацыі.

**30 красавіка** незалежны журналіст і праваабаронца Леанід Свецік паведаміў, што яму адмовілі ў магчымасці наведаць папраўчыя ўстановы Віцебскай вобласці. Ён даслаў больш за дзясятак заяваў з просьбай даць яму магчымасць наведаць гэтыя ўстановы, каб падрыхтаваць артыкулы пра умовы жыцця людзей, якія там утрымліваюцца. Усе адказы, атрыманыя Свецікам, маюць падобны змест:

“Асвятленнем дзейнасці папраўчых установаў у крымінальна-выканаўчай сістэме займаюцца ведамасныя перыядычныя выданні – газеты “На страже” і “Трудовой путь”, якія ў поўнай меры адлюстроўваюць стан побыту і ўмоваў утрымання”.

**9 мая** ў Бабруйску на плошчы Перамогі мясцовыя ідэолагі перашкаджалі відэааператару «Бобруйского курьера» Віктару Масаловічу здымаць урачыстыя мерапрыемствы да Дня Перамогі. Спачатку начальнік упраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Бабруйскага гарвыканкама Мікалай Балюк не дазволіў Масаловічу прайсці на месца, дзе працавалі іншыя фатографы і відэааператары бабруйскіх СМІ, заявіўшы: “А ў вас няма пасведчання”. На прапанову паказаць яго загадчык сектара па працы з грамадскімі аб'яднаннямі, рэлігійнымі арганізацыямі і моладдзю таго ж упраўлення Ігар Несцяровіч выставіў журналісту новыя прэтэнзіі – маўляў, “вы позна прыйшлі”.

**29 траўня** рэдакцыя недзяржаўнай рэгіянальнай газеты "Intex-press" паведаміла пра тое, што на журналісцкі пісьмовы запыт мясцовы чыноўнік – начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Баранавіцкага гарвыканкама Андрэй Сямашка – адказаў здзеклівай адпіскай. Карэспандэнт "Intex-press" Таццяна Некрашэвіч, працуючы над важнай для горада тэмай рассялення жыхароў старых баракаў, накіравала чыноўніку шэраг дакладна сфармуляваных пытанняў, на якія ён не адказаў па сутнасці. Характэрна, што Андрэй Сямашка раней ужо ігнараваў пісьмовыя запыты "Intex-press", перадаваў адказы на іх у дзяржаўную раённую газету.

**16 ліпеня** рэдакцыі недзяржаўнай рэгіянальнай газеты "Intex-Press" стала вядома, што кіраўніцтва мясцовага прадпрыемства "Баранавіцкая гарадская ЖКГ" не адказала ва ўстаноўлены заканадаўствам тэрмін на пісьмовы журналісцкі запыт з 16 пытанняў, а патрэбную інфармацыю адправіла для публікацыі ў выданне-канкурэнт – дзяржаўную раённую газету "Наш край". У рэдакцыю прыйшоў ліст за подпісам в. а. генеральнага дырэктара Міхаіла Менчы, у якім паведамлялася, што "Баранавіцкая гарадская ЖКГ" высылае нумар "Нашага краю" ад 15 ліпеня, дзе можна знайсці адказы на ўсе пастаўленыя пытанні.

**21 жніўня** ў Магілёве журналіста Аляксандра Буракова прымусілі выдаліць з камеры фотаздымкі інфармацыйнага стэнда з абвесткай пра прызначаныя на 11 кастрычніка прэзідэнцкія выбары. Стэнд размяшчаўся ля будынка адміністрацыі Ленінскага раёна Магілёва. Па словах А. Буракова, як толькі ён зрабіў здымкі, з будынка тут жа выйшла супрацоўніца Дэпартамента аховы МУС і запатрабавала іх выдаліць. А. Буракоў папрасіў яе прадставіцца і патлумачыць, якім законам забаронена фатаграфаваць стэнды аб выбарах. Супрацоўнік міліцыі Ілона Міхайлава спаслацца на закон не змагла, але, тым не менш, настаяла на выдаленні фатакадраў. Адразу ж пасля гэтага журналіст напісаў скаргу на дзеянні супрацоўніцы міліцыі ў Кнізе заўваг і прапаноў адміністрацыі Ленінскага раёна горада Магілёва. **17 верасня** Аляксандр Буракоў атрымаў адказ на сваю скаргу, у якім начальнік Ленінскага аддзела дэпартамента аховы А. Несцярэнка паведаміў, што выкладзеныя журналістам заўвагі пра тое, што ён фатаграфаваў толькі інфармацыйны стэнд, "не знайшлі аб'ектыўнага пацверджання”. На яго думку, дзеянні І. Міхайлавай былі законнымі і абгрунтаванымі і адпавядалі зацверджаным інструкцыям. Аднак міліцэйскі чыноўнік фактычна не адказаў па сутнасці выкладзеных у скарзе заўваг. Ён так і не патлумачыў, якая інструкцыя або іншы дакумент забараняе рабіць фотаздымкі інфармацыйных стэндаў адміністрацыйных будынкаў і чым была выкліканая неабходнасць выдалення фотаздымкаў з камеры журналіста.

**7 верасня** ў Гомелі журналістаў-фрылансераў Кастуся Жукоўскага і Наталлю Крывашей зачынілі ў будынку інтэрната, пасля чаго выклікалі міліцыю. Інцыдэнт адбыўся ў інтэрнаце па вул. Уладзімірава, 37, куды журналісты прыехалі па скарзе

адной з жыхарак на тое, што ў будынку працяглы час не працуе душ і не рамантуецца санвузел. “Загадчыца інтэрната Надзея Кавалёва патэлефанавала ў камунальнае прадпрыемства “Савецкае”, дзе ёй параілі зачыніць нас на замок і выклікаць міліцыю”, – распавёў К. Жукоўскі. У інтэрнат па выкліку прыехалі двое супрацоўнікаў Савецкага раённага аддзела міліцыі – Андрэй Дзям'яненка і Сяргей Янкавіч, якія апыталі удзельнікаў інцыдэнту і вызвалілі іх.

**6 кастрычніка** ў Брэсце журналістам Алесю Леўчуку і Мілане Харытонавай перашкаджалі выконваць прафесійныя абавязкі на выбарчым участку Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта (БрДТУ). Яны рабілі інтэрв'ю са студэнтамі, якія прыйшлі на выбарчы ўчастак прагаласаваць датэрмінова. Студэнты распавялі, што іх прымушаюць браць удзел у датэрміновым галасаванні, а прадстаўнік універсітэта кантралюе яўку на выбарчы ўчастак. Журналісты высветлілі, што гэтым прадстаўніком з'яўляецца намеснік дэкана па выхаваўчай рабоце БрДТУ Святлана Куган, акрэдытаваная на ўчастку для галасавання ў якасці назіральніка ад ГА "Белая Русь". Яна перашкаджала рабіць запіс інтэрв'ю са студэнтамі, якія вымушаныя былі адмовіцца ад сваіх словаў. Сама Святлана Куган адмовілася прадставіцца журналістам, назваўшыся "жанчынай з вуліцы". Акрамя таго, яна паабяцала падаць на іх у суд за паклёп.

**8 кастрычніка** журналіст газеты "Intex-press" (г. Баранавічы) Макар Маліноўскі звярнуўся да старшыні Баранавіцкай гарадской выбарчай камісіі Тамары Шукалы за інфармацыяй аб колькасці датэрмінова прагаласаваўшых выбаршчыкаў. Т. Шукала заявіла журналісту, што такіх звестак у яе няма. Пазней высветлілася, што гэта няпраўда: у Брэсцкай абласной камісіі далі звесткі і сказалі, што ўсе дадзеныя яны атрымліваюць ад гарадской тэрытарыяльнай камісіі. Юрысты выдання накіравалі скаргу ў Цэнтральную выбарчую камісію (ЦВК).

**9 кастрычніка** журналіст газеты "Новы Час" Арцём Лява фатаграфаваў на выбарчым участку № 29 Ленінскага раёна Мінска. Алена Пазенка, дырэктар школы № 134, дзе размяшчаўся выбарчы ўчастак, заявіла, што журналіст перашкаджае выбарчаму працэсу. Пасля гэтага члены выбарчай камісіі склалі на яго акт і выдалілі з выбарчага ўчастка. Арцём Лява напісаў скаргу ў ЦВК. Скаргу перанакіравалі ў раённую выбарчую камісію, якая прызнала дзеянні сябраў участковай выбарчай камісіі законнымі, хоць у адпаведнасці з арт. 13 Выбарчага кодэкса прадстаўнікі СМІ маюць права прысутнічаць на паседжаннях камісій і ў памяшканнях для галасавання.

**9 кастрычніка** журналістка сайта газеты "Бабруйскі кур'ер" Александрына Глаголева рыхтавала матэрыял з выбарчага ўчастка № 20 Ленінскай выбарчай акругі г. Бабруйска. Старшыня ўчастковай камісіі спачатку адмаўляў ёй у праве знаходзіцца на ўчастку ў якасці прадстаўніка СМІ, потым усё ж зарэгістраваў, але жорстка "рэгламентаваў" час знаходжання на ўчастку: “робіце здымак і ідзіце”. Журналістка была вымушаная пакінуць участак. Александрына Глаголева ў сувязі з гэтым інцыдэнтам накіравала заяву ў пракуратуру.

**11 кастрычніка** журналіста газеты "Новы Час" Арцёма Ляву не ўпусцілі ў памяшканне выбарчага ўчастка № 33 Ленінскага раёна Мінска (старшыня камісіі – Дзмітрый Агулік). Журналісту не дазволілі ўвайсці, спаслаўшыся на складзены на яго пратакол за "парушэнне правілаў паводзін на гэтым участку" днём раней. "У выніку чаго паўсталі пытанні аб некамфортным правядзенні выбараў (спыняе выбаршчыкаў, задае пытанні), – гаварылася ў пратаколе. – Адмовіўся ад просьбы заняць пэўнае месца на ўчастку, каб не перашкаджаць выбаршчыкам". Увесь папярэдні дзень журналіст правёў на гэтым выбарчым участку без нараканняў ў свой адрас. Журналіст мяркуе, што да камісіі ўчастка № 33 дайшла інфармацыя пра яго скаргу на камісію на ўчастку № 29, і таму яго вырашылі не пускаць. Арцём Лява накіраваў скаргу ў пракуратуру.

**11 кастрычніка** журналістка польскага інтэрнэт-выданні Eastbook.eu спрабавала зняць на відэа працэс падліку галасоў на ўчастку № 6 Першамайскага раёна Мінска (пр. Незалежнасці, 85). Члены камісіі адгарадзіліся крэсламі, за якія, на іх думку, назіральнікі не павінныя заходзіць. На просьбу забяспечыць магчымасць бачыць працэс старшыня камісіі Наталля Куноўская заявіла, што гэта яе ўчастак, і яна дыктуе тут правілы. Калі журналістка спрабавала зьняць працэс падліку, адна з членаў камісіі сказала, што не хоча трапляць на відэа. Старшыня камісіі заявіла, што журналістка "парушае правы чалавека", і прымусіла яе адысці ад стала.

**23 кастрычніка** недзяржаўная газета "Наша Ніва" атрымала адмову Цэнтрвыбаркама на пісьмовы запыт аб прадастаўленні інфармацыі. Рэдакцыя звярталася ў ЦВК з просьбай азнаёміцца з выніковымі лічбамі ўсіх пратаколаў сталічных участковых камісій. У адказе за подпісам старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай паведамлялася, што ЦВК не мае пратаколаў участкаў: гэтыя дакументы засталіся ў Мінскай гарадской выбарчай камісіі, якая да таго моманту спыніла працу. Перад гэтым назіральнікі на прэзідэнцкіх выбарах паведамлялі пра факты перапісвання пратаколаў на многіх участках, калі дадзеныя, якія вывешваліся пасля заканчэння падлікаў, не супадалі з тымі, што апавяшчалі ў раённай тэрытарыяльнай камісіі. Журналісты "Гашай нівы" хацелі праверыць гэтую інфармацыю.

**4 лістапада** Гродзенскаму фрылансеру Аляксандру Дзянісаву забаранілі здымаць у Гродзенскай выставачнай зале адкрыццё выставы французскай вандроўніцы і фатографа Франсуазы Югье. Дырэктар залы Ірына Сільвановіч не дазволіла А. Дзянісаву увайсці ў памяшканне. Між тым, прадстаўнікі іншых незалежных СМІ змаглі прысутнічаць на мерапрыемстве. Верагодна, сітуацыя тлумачылася тым, што менавіта І. Сільвановіч разам з мужам, мастаком Аляксандрам Сільвановічам, у жніўні 2015 г. вымушаныя былі выступаць сведкамі ў судзе над Аляксандрам Дзянісавым і Аляксандрам Кіркевічам. Тады журналістаў аштрафавалі за тое, што яны знялі для тэлеканала "Белсат" матэрыял аб выставе, якая праходзіла ў той жа залі.

**11 лістапада** ў Мінску журналістам Сяргею Будкіну і Яўгену Шапчыцу не дазволілі весці відэаздымкі ў клубе Re:Public. Выключыць камеры загадаў дырэктар клуба Андрэй Старцаў. Журналісты здымалі сюжэт на канцэрце гурта Nizkiz для тэлеканала «Белсат». Сяргей Будкін быў загадзя акрэдытаваны на мерапрыемстве.

**18 снежня** падчас адкрыцця памятнага знака "Чэкістам Магілёўшчыны" прысутных на мерапрыемстве журналістаў-фрылансераў дапусцілі да будынка Магілёўскага абласнога ўпраўлення КДБ толькі пасля завяршэння афіцыйнай часткі. Людзі у цывільным настойліва раілі журналістам не рабіць ніякіх здымак і назіралі, каб гэтая забарона не парушаўся. Журналіст Яўген Глушкоў паведаміў, што яму забаранілі здымаць відэа і фатаграфаваць на той падставе, што ў яго няма дакумента з адпаведным рэдакцыйным заданнем. Фрылансеры вымушаныя былі назіраць за адкрыццём памятнага знака праз праезную частку, а на пляцоўку непасрэдна перад памятным знакам былі дапушчаныя толькі журналісты дзяржаўных СМІ.

## Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў

*Незалежныя журналісты падвяргаліся ціску ў выглядзе падатковых праверак і «увагі» з боку Камітэту дзяржаўнай бяспекі.*

**23 лютага** рэдактар крычаўскай маланакладнай газеты "Вольны горад" Сяргей Няроўны паведаміў, што атрымаў ад інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Крычаўскім раёне патрабаванне прадставіць дэкларацыю аб даходах і маёмасці за 2011-

2014 гады ў тэрмін не пазней за 24 лютага 2015 г. Сяргей Няроўны лічыць, што праз падатковую інспекцыю ўлады ажыццяўляюць на яго як рэдактара “Вольнага горада” ціск з мэтай змяніць крытычную пазіцыю выдання ў адносінах да мясцовай “вертыкалі” на больш лагодную. Па словах С. Няроўнага, апошні раз падатковая інспекцыя спрабавала на яго «націснуць» падобным чынам у 2011 годзе.

**14 сакавіка** незалежны журналіст з Бярозаўкі Юрый Дзяшук паведаміў, што спецслужбы праяўляюць падвышаную ўвагу да яго суразмоўцаў. Напрыклад, бібліятэкарку бярозаўскай гарадской бібліятэкі выклікалі ў КДБ на гутарку праз тое, што яна размаўляла з Дзяшуком. Па інфармацыі журналіста, усім супрацоўнікам лідскага музея забаранілі з ім гутарыць.

**28 мая** на ўкраінска-беларускай мяжы ў пункце пропуску Новая Гута беларускія памежнікі затрымалі гомельскага журналіста-фрылансера Кастуся Жукоўскага, які вяртаўся з Чарнігава. Спачатку, забраўшы пашпарты для праверкі, журналіста і яго спадарожнікаў трымалі каля двух гадзін без тлумачэння прычын. Потым паведамілі, што яны затрыманыя, і загадалі выключыць мабільныя тэлефоны. Правялі асабісты дагляд і агледзелі аўтамабіль. Па словах памежнікаў, яны шукалі "антыканстытуцыйную літаратуру і носьбіты інфармацыі". З такога роду праблемамі на мяжы пры вяртанні з Украіны Жукоўскі сутыкнуўся ўжо трэці раз за апошнія два месяцы.

**9 ліпеня** журналіст з Глыбокага Зміцер Лупач распавёў, што прадстаўнікі КДБ схілялі яго да супрацоўніцтва – каб ён паведамляў падрабязнасці аб мясцовых актывістах, пра сустрэчы з сябрамі БАЖ і аб апазіцыйнай актыўнасці ў рэгіёне. Спачатку, **25 чэрвеня**, Лупача выклікалі ў фінансавую міліцыю, дзе яго сустрэлі мясцовыя прадстаўнікі КДБ і двое невядомых, якія сказалі, што прыехалі з Мінска спецыяльна дзеля сустрэчы з ім. Яны цікавіліся паездкамі журналіста ва Украіну, а таксама яго кантактамі з замежнікамі. Адзін з такіх "кантактаў" адбыўся ў чэрвені. Дзмітрый сустракаўся з палякамі, якія прыязджалі на Глыбоччыну; пазней на сайце "Еўрарадыё" і ў газеце "Вольнае Глыбокае" выйшаў артыкул "Знайшліся сваякі пагранічніка, які загінуў на Глыбоччыны 17 верасня 1939 гады". **30 чэрвеня** Змітра Лупача па тэлефоне выклікаў на сустрэчу супрацоўнік мясцовага КДБ. Падчас гутаркі ён папярэдзіў журналіста аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі і дыскрэдытацыі Рэспублікі Беларусь (арт. 369-1 КК РБ) – прадастаўленне замежнай дзяржаве непраўдзівых звестак аб палітычным, эканамічным, сацыяльным становішчы грамадзян і г.д. "Супрацоўнік КДБ сказаў, што ў іх ёсць шмат доказаў майго супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі, але яны не будуць іх агучваць, калі я пагаджуся ім дапамагчы. Прычым супрацоўнік КДБ адзначыў, што ў выпадку адмовы будуць праблемы ў маёй жонкі і дзяцей", – распавёў Д. Лупач. **9 ліпеня** той жа самы прадстаўнік КДБ тэлефанаваў і зноў прапаноўваў сустрэцца. Зміцер Лупач катэгарычна адмовіўся ад "супрацоўніцтва", нягледзячы на пагрозы, і вырашыў публічна распавесці аб гэтым, каб папярэдзіць сяброў і калегаў, якія таксама могуць патрапіць у падобную сітуацыю.

**17 ліпеня** стала вядома пра звальненне журналіста FM-радыё "Unistar" Сяргея Грудніцкага. Прычынай гэтага стала тое, што ім былі зачытаныя ў эфіры радыёстанцыі навіны недзяржаўнага інфармагенцтва БелаПАН, – паведаміў Грудніцкі на сваёй старонцы ў Фэйсбуку. Звальненне Грудніцкага з фармулёўкай "па згодзе бакоў" пацвердзіў праграмны дырэктар радыё "Unistar" Аляксандр Налівайка. Інфармацыю пра тое, што прычынай сталі навіны БелаПАН, ён аспрэчыў: сказаў, нібыта на радыё проста адбываюцца арганізацыйныя і кадравыя змены.

**11 жніўня** гарадзенскі журналіст Андрэй Мялешка накіраваў заяву ў Кастрычніцкі РАУС Гродна з просьбай выявіць і прыцягнуць да адказнасці асоб, якія

пішуць на адным з сайтаў паклёпніцкія ананімныя артыкулы пра гарадзенскіх журналістаў і грамадскіх дзеячаў, у тым ліку, пра яго. Журналіст угледзеў у матэрыялах сайта паклёп на сябе і чальцоў сваёй сям'і. На працягу апошніх гадоў на гэтым сайце таксама з'яўляліся публікацыі пра іншых сябраў ГА "БАЖ" – А. Дзянісава, А. Кіркевіча, В. Парфёненка, В. Хільмановіча і В. Сазонава. **16 кастрычніка** стала вядома, што ўпраўленне ўнутраных спраў Кастрычніцкага раёна Гродна не знайшло складу крымінальнага злачынства ў інтэрнэт-артыкуле пра Мялешку. Супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі, дзе хосціцца старонка і хто займаецца адміністраваннем групы Вконтакте, "прывязанай" да гэтага сайту. Паводле адказу з міліцыі, гэтыя людзі не маюць ніякага дачынення да паклёпніцкіх выказванняў аб Мялешку і не могуць быць прыцягнутыя да адказнасці. Пасля гэтага журналіст падаў аналагічную заяву ў пракуратуру. **24 снежня** Андрэй Мялешка атрымаў з Кастрычніцкага РАУС адказ датычна вынікаў дадатковай праверкі пракуратуры па яго запыце. Пракуратура, як і міліцыя, не ўгледзела падставаў, каб распачынаць крымінальную справу. У адказе гаварылася, што змест артыкулаў фармальна мае прыкметы паклёпу (арт. 188 КК РБ), але не ўстаноўленая мэта, з якой хтосьці гэта зрабіў. Таксама не быў устаноўлены адміністратар сайта, паслугі хостынгу якому аказвае расійская кампанія ў Санкт-Пецярбургу.

**3 лістапада** стала вядома аб чарговай спробе ціску на рэдактара газеты "Наш Магілёў" Ігара Барысава. "Пасля таго, як у міліцыі не атрымалася прыцягнуць Ігара Барысава да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці, ім занялася падатковая інспекцыя", – паведаміў сайт eurobelarus.info. Падаткавікі сталі апытваць знаёмых і сяброў Барысава, а таксама іншых грамадзян, якія мелі справу з журналістам. **28 кастрычніка** ў кватэру Барысава пад выглядам "сезоннага агляду камунікацый" меў намер трапіць невядомы чалавек, які прадставіўся старэйшым майстрам ТДА "Камунальнік". Нікога з суседзяў Барысавых пры гэтым не турбавалі, і ў офісе ТДА "Камунальнік" не змаглі падаць план "сезоннага агляду кватэр". Пазней, **13 лістапада,** у Магілёве ў кватэру Ігара Барысава спрабавалі патрапіць сем чалавек – супрацоўнікі міліцыі Сямёнаў і Сердзюкоў і пяцёра камунальнікаў, з якіх назваў сябе толькі адзін чалавек – старшы майстар ТДА “Камунальнік” Буксанаў. Камунальнікі паказалі прадпісанне, у якім гаварылася, што сям’я Барысавых павінна забяспечыць ім доступ у кватэру для “сезоннага агляду” жылля. Аднак у паперы адсутнічалі пячаткі, быў подпіс толькі старэйшага майстра і не ўказваліся падставы для агляду кватэры. Сям’я журналіста адмовілася пусціць візітораў. Барысавы звярнуліся са скаргамі ў ТДА “Камунальнік” і Следчы камітэт аб парушэнні іх канстытуцыйнага права на недатыкальнасць жылля. Па словах І. Барысава, да іншых жыхароў дома прадстаўнікі камунальных службаў разам з міліцыяй для правядзення “сезоннага агляду” не заходзілі. Журналіст палічыў, што на яго сям’ю аказвалі ціск праз яго журналісцкую і грамадска-палітычную дзейнасць.

## Перашкоды друку і распаўсюдзе прадукцыі СМІ

*Як і ў папярэднія гады, дзяржаўныя прадпрыемствы-манапалісты – «Белпошта» і «Белсаюздрук» – адмаўляліся распаўсюджваць незалежныя газеты. Дэпартамент коштавай палітыкі Міністэрства эканомікі не знайшоў парушэнняў антыманапольнага заканадаўства ў дзеяннях РУП "Белпошта".*

**29 красавіка** рэдакцыі недзяржаўнай “Газеты Слонімскай” стала вядома, што “Белпошта” і “Белсаюздрук” зноў адмовілі ёй у супрацоўніцтве. Абодва прадпрыемствы-манапалісты са спасылкамі на розныя прычыны напісалі, што не

будуць займацца распаўсюдам гэтага недзяржаўнага выдання і дадатку да яго – "Отдушина". "Выбар друкаваных выданняў для фармавання каталогу з мэтай далейшага іх распаўсюду праз падпіску з'яўляецца правам РУП "Белпошта", якое ім рэалізуецца ў адпаведнасці з заканадаўствам", – паведамлялася ў адказе за подпісам першай намесніцы гендырэктара прадпрыемства Алены Скрыпчык.

**15 траўня** стала вядома, што РУП «Белпошта» ў чарговы раз адмовілася распаўсюджваць праз падпіску недзяржаўную газету «Intex-press» (г. Баранавічы). У сваім звароце Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс", спасылаючыся на антыманапольнае заканадаўства, сцвярджаў, што "Белпошта" абавязаная ўключыць газету ў падпісны каталог. У адказе РУП "Белпошта" ад 7 траўня за подпісам першага намесніка гендырэктара Алены Скрыпчык паведамлялася, што ў рэестр манапалістаў РУП "Белпошта" ўнесеная па таварнай пазіцыі "паслугі па прыёме падпіскі, дастаўцы і пераадрасавання друкаваных сродкаў масавай інфармацыі", у той час як паслуга па ўключэнні друкаваных СМІ ў падпісны каталог не з'яўляецца паслугай, якая аказваецца на падставе публічнага пагаднення, і не ўключаная ў прыведзены пералік паслуг.

**26 чэрвеня** ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс" у чарговы раз атрымаў адмову УП "Брестоблсоюзпечать" на просьбу распаўсюджваць праз дзяржаўную сістэму продажу газету "Intex-press". У лісце за подпісам намесніка дырэктара прадпрыемства Мікалая Марэйкі рэдакцыі паведамілі, што нібыта не маюць магчымасці скласці дамову на распаўсюд. *Нагадаем, недзяржаўная грамадска-палітычная газета "Intex-press" выходзіць у Баранавічах з 1994 года. У 2006 годзе выданне было выключанае з дзяржаўных сістэм распаўсюду.*

**27 ліпеня** стала вядома, што дэпартамент коштавай палітыкі Міністэрства эканомікі не знайшоў парушэнняў антыманапольнага заканадаўства ў дзеяннях РУП "Белпошта", якое адмаўляецца заключаць дамову з незалежным выданнем "Intex-press". Пра "Выдавецкі дом" Інтекс-прэс "звярнулася ў дэпартамент з заявай аб парушэнні "Белпоштай" антыманапольнага заканадаўства ў частцы злоўжывання дамінуючым становішчам. У адказе дырэктар дэпартамента Ігар Фамін пацвердзіў, што РУП "Белпошта" ўнесеная ў дзяржаўны рэестр гаспадарчых суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча на таварных рынках па пазіцыі "спецыяльная паштовая сувязь; паслугі па прыёме падпіскі, дастаўцы і пераадрасавання друкаваных сродкаў масавай інфармацыі", аднак даў абсурднае тлумачэнне, што "уключэнне ў падпісны каталог не адносіцца да паслуг спецыяльнай паштовай сувязі, прыёму падпіскі, дастаўцы і пераадрасавання друкаваных сродкаў масавай інфармацыі".

Падобны адказ з Мінэканомікі атрымала нядаўна таксама рэдакцыя недзяржаўнай "Газеты Слонімскай".

**31 жніўня** рэдакцыя газеты "Новы Час" у чарговы раз звярнулася ў РУП "Белсаюздрук" з просьбай аб заключэнні дамовы на распаўсюд газеты праз гандлёвую сетку прадпрыемства, але ў адказ атрымала чарговую адмову. Кіраўніцтва РУП "Белсаюздрук" паведаміла, што не мае магчымасці для распаўсюджвання "Новага Часу" праз сваю сетку і мае намер вярнуцца да гэтага пытання напрыканцы году.

**23 верасня** стала вядома, што недзяржаўнай рэгіянальнай газеце "Барысаўскія навіны" у чарговы раз адмовілі ў распаўсюдзе праз сістэмы "Белпошта" і "Мінаблсаюздрук". Рэдакцыя выдання звярталася да дырэктара РУП "Миноблсаюзпечать" С. Есіна і да гендырэктара РУП "Белпошта" І. Саксонавай. Выданне прапаноўвала заключыць дамовы на распаўсюд праз сетку рознічнага гандлю, а таксама на аказанне паслуг па прыёме падпіскі і дастаўцы друкаванага СМІ. Дзяржаўныя прадпрыемствы-манапалісты адмовіліся заключаць дамовы з выданнем, спаслаўшыся на арт. 391 Грамадзянскага кодэкса, які дае юрыдычным і фізічным асобам свабоду ў заключэнні пагадненняў.

## Эканамічная палітыка дзяржавы ў сферы СМІ

*Дзяржава працягвала палітыку «эканамічнай дыскрымінацыі» незалежнай прэсы, фінансуючы дзяржаўныя СМІ з бюджэту і абавязваючы супрацоўнікаў дзяржаўных установаў на іх падпісвацца.*

**16 лістапада** да журналістаў “Еўрарадыё” трапіў дакумент, у якім першы намеснік старшыні адміністрацыі Ленінскага раёна Мінска Валерый Вараніцкі просіць кіраўнікоў арганізацый падпісацца на шэраг дзяржаўных газет на 1 паўгоддзе 2016 года “з мэтай забеспячэння праўдзівага інфармавання грамадзян пра сацыяльна-эканамічнае развіццё Рэспублікі Беларусь”. У прапанаваным спісе – газеты “Советская Белоруссия”, “Минский курьер”, “Рэспубліка”, “Народная газета”, “Звязда” і “Вечерний Минск”. «Для аналізу вынікаў падпісной кампаніі» адрасатаў просяць прадставіць у адміністрацыю копіі плацёжнага даручэння (квітанцыі), якія пацвярджаюць афармленне падпіскі.

**19 лістапада** ўрад Беларусі пастановай № 966 вызначыў спіс дзяржаўных газет і часопісаў, якія атрымаюць фінансаванне з рэспубліканскага бюджэту ў 2016 годзе. У апублікаваным спісе – 26 перыядычных выданняў: "Советская Белоруссия", "Рэспубліка", "Знамя юности", "Спортивная панорама", "The Minsk Times" (дадатак "Голас Радзімы"), "Алеся", "Беларускі гістарычны часопіс", "Беларусь. Belarus", "Белорусская нива", "Бярозка", "Вместе!", "Вожык", "Вясёлка" ,"Журнал специального назначчения", "Звязда" і інш. Памер дапамогі кожнаму з гэтых СМІ не пазначаўся.

**26 лістапада** стала вядома, што работнікаў дзяржаўных прадпрыемстваў Магілёва прымушаюць падпісвацца на дзяржаўныя друкаваныя выданні. У якасці пацверджання быў апублікаваны здымак друкаванага бланка заявы супрацоўніка ААТ “Магілёўліфтмаш” у бухгалтэрыю прадпрыемства: заяўнік просіць вылічыць з яго лістападаўскага заробку 212 600 рублёў за падпіску на першае паўгоддзе 2016 на газету “Вестник Могилёва” (заснавальнік – Магілёўскі гарвыканкам). Па словах праваабаронцаў, апытанне паказала, што такое адбывалася і на іншых прадпрыемствах: у прыватнасці, на магілёўскім аўтазаводзе імя Кірава, “Трансмашы” і іншых. Акрамя “Вестника Могилёва”, прапаноўвалася падпісвацца на “Могилёвскую правду”, “Днепровскую неделю” і “Могилёвские ведомости”.

**13 снежня** стала вядома пра факт прымусовай падпіскі на ААТ “Крычаўцэменташыфер”. Адпаведны дакумент перадалі журналістам незалежнай газеты “Вольны горад” супрацоўнікі прадпрыемства. “Арганізаваць падпіску на кантраляваныя перыядычныя выданні на 1 паўгоддзе 2016 года да 10 снежня 2015 г.” прадпісала адміністрацыя прадпрыемства начальнікам падраздзяленняў: 7 асобнікаў – “Знамени юности", 2 – “Звязды”, 37 – “Советской Белоруссии”, 2 – “Рэспублікі”, 2 – “Народной газеты”, 8 – “Могилёвских ведомостей” і 75 асобнікаў раённай газеты “Крычаўскае жыццё”. Пад распараджэннем стаяў подпіс намесніка гендырэктара ААТ “Крычаўцэменташыфер” па ідэалагічнай працы, кадрах і сацыяльных пытаннях Жанны Кустрэй.

**30 снежня** законам “Аб рэспубліканскім бюджэце на 2016 год” было прадугледжана вылучэнне 900 120 843 тыс. руб (каля 45 млн еўра) на фінансаванне дзяржаўных СМІ. У тым ліку, на тэлебачанне і радыёвяшчанне – 734 815 075 тыс. руб (каля 36,6 мільёнаў еўра), на перыядычны друк і выдавецтвы – 69 154 793 тыс. руб (каля 3,5 мільёнаў еўра), на “іншыя пытанні ў галіне СМІ” – 96 150 975 тыс. руб (каля 4,7 мільёнаў еўра). Фінансаванне было выдзелена на пазаконкурснай аснове ў адпаведнасці з пералікам выданняў, зацверджаным урадам.

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

*У 2015 г. Міністэрства інфармацыі стала ініцыяваць абмежаванне доступу да інтэрнэт-рэсурсаў у адпаведнасці са зменамі, якія былі ўнесеныя ў Закон аб сродках масавай інфармацыі ў 2014 г. Цягам году такім чынам ажыццяўлялася блакіроўка 40 інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў (Міністэрства інфармацыі згадвала аб 41 заблакаваным сайце). З іх, паводле афіцыйнай інфармацыі, 18 інфармацыйных рэсурсаў былі заблакаваныя за распаўсюд інфармацыі, накіраванай на рэалізацыю наркатычных сродкаў, 2 – за табуіраваную лексіку, 5 – за неналежную рэкламу лекавых сродкаў, 1 – за прапаганду дзіцячай парнаграфіі, 1 – за распаўсюд інфармацыі, якая можа нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам, 2 – за рэкламу алкагольных напояў, 11 – за распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў. Да 4 рэсурсаў доступ быў адноўлены.*

*Акрамя гэтага, незалежныя навіновыя сайты падвяргаліся DDoS-нападам і спробам узлому.*

**22 студзеня** Міністэрства інфармацыі паведаміла пра абмежаванне доступу да двух інфармацыйных рэсурсаў, якія "ўтрымліваюць вульгарную і табуяваную лексіку і здольныя нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь". Чыноўнікі адмовіліся паведаміць назвы сайтаў. Пазней у гэты дзень журналісты высветлілі, што гэта так званыя "смеццевыя" сайты з люстэркавымі даменнымі імёнамі yahooeu.by і yah.by, якія не з'яўляюцца паўнавартаснымі інфармацыйнымі рэсурсамі.

**29 студзеня** ГА "БАЖ" атрымала адказы Упраўлення МУС па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій (упраўлення "К") і Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Прэзідэнце РБ (ААЦ) на зварот датычна блакавання шэрагу інтэрнэт-сайтаў. Першы намеснік начальніка ААЦ Уладзімір Рабаволаў паведаміў, што "ААЦ захадаў па абмежаванні доступу да ўказаных у звароце інтэрнэт-рэсурсаў не прымалася". Упраўленне "К", у сваю чаргу, паведаміла, што правяло праверку па звароце. "Паводле інфармацыі РУП "Белтэлекам", якіх-кольвек абмежаванняў на даступнасць указаных рэсурсаў у сетцы перадачы дадзеных РУП "Белтэлекам" не ўстаноўлена", – напісаў намеснік начальніка Ўпраўлення Н. Лысенка. Раней, **22 снежня 2014 г.,** ГА "БАЖ" накіравала ў Генпракуратуру РБ, Упраўленне "К" і ААЦ пры Прэзідэнце афіцыйныя лісты. Арганізацыя заклікала гэтыя ведамствы правесці праверку незаконнага блакавання напрыканцы снежня 2014 г. шэрагу сайтаў (belapan.com, belapan.by, naviny.by, belaruspartisan.org, udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by, charter97.org.), высветліць асобаў, вінаватых у парушэнні заканадаўства, і прыцягнуць іх да адказнасці ў адпаведнасці з законам.

**11 лютага** Міністэрства сувязі і інфарматызацыі ў афіцыйным адказе на запыт ГА "БАЖ" паведаміла, што не прымала захадаў па абмежаванні доступу да незалежных інтэрнэт-выданняў (belapan.com, belapan.by, naviny.by, belaruspartisan.org, udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by, charter97.org.) напрыканцы снежня 2014 г. Першы намеснік міністра сувязі і інфарматызацыі Дзмітрый Шадко паведаміў, што парадак абмежавання доступу карыстальнікаў да асобных інтэрнэт-рэсурсаў вызначаны адмысловым Палажэннем, зацверджаным сумеснай пастановай ААЦ і Мінсувязі. Паводле палажэння, спіс абмежаванага доступу фармуецца ў РУП "БелГІЭ". Такім чынам, ніводны з дзяржаўных органаў не ўзяў на сябе адказнасць за блакаванне шэрагу незалежных інтэрнэт-сайтаў у перыяд з 19 па 22 снежня 2014 г.

**17 сакавіка** Міністэрства інфармацыі паведаміла, што з **13 сакавіка** абмежавала доступ да пяці інфармацыйных рэсурсаў. Рашэнне было прынятае з мэтай выканання

Дэкрэта Прэзідэнта РБ № 6 "Аб неадкладных мерах па процідзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў" ад 28.12.2014 г. Назвы заблакаваных рэсурсаў не паведамляліся.

**15 траўня** рэдакцыі некалькіх сайтаў паведамілі, што атрымалі ад Міністэрства інфармацыі афіцыйныя лісты за подпісам міністра Ліліі Ананіч аб выяўленых на рэсурсах "парушэннях заканадаўства аб СМІ". У лістах запытваліся звесткі аб уладальніках сайтаў і падкрэслівалася, што Мінінфарм можа заблакаваць рэсурс, калі ўладальніку вынесена два і больш папярэджанняў, і ён не выпраўляе выяўленыя парушэнні, або калі распаўсюджвае забароненую заканадаўствам інфармацыю (п. 1 арт. 51 закона "Аб СМІ"). У прыватнасці, такія лісты атрымалі рэдакцыі сайтаў freeregion.info ("Свабодны рэгіён"), racyja.com ("Беларускае Радыё Рацыя"), tuzin.fm (музычны партал "Тузін Гітоў"), ucpb.org (сайт прыхільнікаў Аб'яднанай Грамадзянскай партыі) і культурніцкі інтэрнэт-часопіс kyky.org.

**15 чэрвеня** Міністэрства інфармацыі абмежавала доступ да сайта kyky.org, спасылаючыся на арт. 38 закона "Аб СМІ" – за размяшчэнне інфармацыі, распаўсюджванне якой можа нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь. "У шэрагу публікацый, размешчаных на гэтым інфармацыйным рэсурсе, утрымліваюцца прыніжальныя выказванні ў дачыненні да дзяржаўнага свята Рэспублікі Беларусь – Дня Перамогі, грамадзян краіны, якія у ім ўдзельнічаюць, аспрэчваецца значнасць гэтай падзеі ў гісторыі дзяржавы, тым самым скажаецца гістарычная праўда аб Вялікай Айчыннай вайне. Таксама ў матэрыялах на сайце kyky.org прысутнічае табуіраваная лексіка, грэблівыя, а часам і зневажальныя выказванні на адрас прадстаўнікоў пэўных сацыяльных груп, нацыянальнасцяў і рэлігійных канфесій", – паведаміла міністэрства. **22 чэрвеня** прадстаўнікі рэдакцыі заблакаванага сайта kyky.org па ініцыятыве міністэрства сустрэліся з першым намеснікам міністра інфармацыі Ігарам Луцкім і юрыстам ведамства, якія параілі рэдакцыі больш уважліва сачыць за ўжыванай лексікай. **23 чэрвеня** – на шосты дзень блакавання – абмежаванне доступу да сайта было знятае пасля выдалення спрэчных публікацый.

**13 ліпеня** стала вядома, што ў Наваполацку міліцыя шукае ўладальніка сайта freeregion.info і доказы таго, што ім з'яўляецца грамадскі актывіст Вадзім Драздоў, які ўжо некалькі гадоў жыве за мяжой. **18 чэрвеня** лейтэнант міліцыі Рафаловіч апытаў суседзяў Драздова, **1 ліпеня** ў Наваполацкі ГАУС выклікалі яго маці. Распытвалі, дзе жыве Вадзім, калі ён прыязджае ў Беларусь і г.д. Па інфармацыі рэдакцыі freeregion.info, былі накіраваныя запыты некаторым правайдэрам, а таксама ў кампанію "Велком" – з мэтай даведацца, на каго зарэгістраваны пазначаны на сайце нумар зваротнай сувязі. Перад гэтым, **12 траўня**, рэдакцыя атрымала ліст з Мініформа з патрабаваннем паведаміць звесткі аб юрыдычнай альбо фізічнай асобе ўладальніка сайта, а таксама яго юрыдычны адрас або месца жыхарства. У лісце за подпісам Ліліі Ананіч гаварылася аб выяўленых на сайце "парушэннях заканадаўства аб СМІ" і аб магчымасці вынясення пісьмовага папярэджання ўладальніку або блакавання рэсурсу.

**21 жніўня** Міністэрства інфармацыі паведаміла, што 19 жніўня на падставе рашэння суда Цэнтральнага раёна г. Мінска ім было прынятае рашэнне аб абмежаванні доступу да двух інтэрнэт-рэсурсаў у сувязі з наяўнасцю "прыкмет праявы экстрэмізму ў частцы распальвання расавай, сацыяльнай і рэлігійнай варожасці" у апублікаваных матэрыялах. Назвы гэтых рэсурсаў не ўказваліся.

**23 верасня** сайт кампаніі назірання за прэзідэнцкімі выбарамі "Права выбару-2015" спрабавалі ўзламаць хакеры. Пра гэта паведаміў адзін з каардынатараў кампаніі Дзяніс Садоўскі. Каля 13-й гадзіны была спроба DDoS-напады з вялікай колькасці IP-адрасоў. З якой краіны ішла атака, выявіць не атрымалася. Праз дзве гадзіны хтосьці спрабаваў падабраць паролі для ўваходу на сайт. Каардынатары кампаніі "Права

выбару-2015” звязваюць спробу DDoS-напада на іх сайт з жаданнем перашкодзіць незалежнаму назіранню за выбарчай кампаніяй і яе інфармацыйнаму суправаджэнню.

**3 кастрычніка** прыблізна а 12-й гадзіне пачаліся масіраваныя DDoS-напады на сайты недзяржаўнага інфармагенцтва БелаПАН. У выніку сайты naviny.by і belapan.by сталіся недасягальнымі для карыстальнікаў; ад 5 кастрычніка яны пачалі працаваць, але з перабоямі. **5 кастрычніка** інфармацыйная кампанія БелаПАН выступіла з заявай з нагоды DDoS-нападаў, у якой яны звязваліся з публікацыяй у інтэрнэт-газеце Naviny.by артыкулаў пра рэлігійна-палітычнай акцыі “Малітва за Беларусь”. У артыкулах крытыкаваліся метады арганізацыі гэтай акцыі, падаваліся меркаванні студэнтаў, якія “па разнарадцы” прыйшлі на мерапрыемства з удзелам кіраўніка дзяржавы. 5 кастрычніка ГА "БАЖ" таксама распаўсюдзіла заяву з нагоды атакі на сайты БелаПАН, разглядаючы яе як “спробу пакараць Belapan.com і Naviny.by за выкананне прафесійных абавязкаў” і “грубае ўмяшальніцтва ў працу незалежных медыяў” падчас электаральнай кампаніі. Журналісцкая арганізацыя заклікала спыніць атакі на незалежныя медыя, каб забяспечыць канстытуцыйнае права грамадзян атрымліваць інфармацыю з розных крыніц.

**12 кастрычніка** – у ноч пасля прэзідэнцкіх выбараў – ад 1.20 да 1.35 былі недаступныя незалежныя інфармацыйныя сайты nn.by, charter97.org, belaruspartisan.org, naviny.by, euroradio.fm. Каля 1.35 доступ да іх аднавіўся.